15 ліпеня 2016 | № 28 (493)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Час вяртання Уладзіслава Казлоўскага**

Стар. 15

ISSN 2218-2144

**4** ПА ШЛЯХУ У ТЫСЯЧУ ЛІ

Наколькі лёгка было ператварыць маладога камуніста ў фашыста, і наадварот, было добра вядома ў Германіі, асабліва сярод прапагандыстаў абедзвюх партый

**5** «УСЕ «СТАЛІНЫ» МЕРКАВАЛІ, НІБЫ ЯНЫ ВЫЗНАЧАЮЦЬ КАМУ І КІМ БЫЦЬ»



Беларускі паэт, празаік і экс-кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў падзяліўся з НЧ думкамі пра тое, ці сумяшчальныя паэзія і палітыка, расказаў, пра што шкадуе і пра тое, як яму пашчасціла ў каханні

**7–10**



ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ

**14** ВІЛЬНЯ ЯК РАЗМЕННАЯ МАНЕТА

12 ліпеня 1920 года бальшавіцкая Расія заключыла з Літоўскай Рэспублікай мірную дамову, паводле якой старажытная сталіца Вялікага Княства Літоўскага з часткай тэрыторыі была перададзена літоўцам

# «Уралкалій» будзе беларускім?

## Падобна, беларусы ажыццявілі рэйдарскі захоп буйной расійскай кампаніі



Сяргей ПУЛЬША

Група «АНЭКСІМ» Міхаіла Прохарава прадала сваю 20-працэнтную долю «Уралкалія». Пакупніком выступіў Дзмітрый Лабяк, уладальнік беларускай кампаніі «Юрас Ойл», афіцыйны дылер «Уралхіма» ў нашай краіне. Лабяк адразу ж заявіў, што выступае за аднаўленне альянсу «Уралкалія» з Беларускай калійнай кампаніяй (БКК).

Нагадаем, што да 2013 года значны аб'ём сусветнага гандлю калійнымі ўгнаеннямі — больш за 42% рынку — прыпадаў на БКК. Гэта было сумеснае прадпрыемства «Уралкалія» з «Беларуськаліем». Але затым «Уралкалій» пачаў «хімічыць» — прадаваць сваю прадукцыю па-за межамі БКК. Больш за тое, у расіян узнікла ідэя «рэфармаваць» БКК у «Саюзную калійную кампанію» з офісам у «ленінскіх мясцінах» — то бок у Швейцарыі. За такія махінацыі ў сінявокай быў затрыманы топ-менеджар «Уралкалію» Уладзіслаў Баўмгертнер, які, па падліках беларускага следства, увёў БКК у страты на $100 мільёнаў.

Скандал справакаваў абвал рынка, «Уралкалій» і «Беларуськалій» разышліся. Справа Баўмгертнера скончылася нічым — яго перадалі расіянам, якія спынілі пераслед бізнесоўца за адсутнасцю складу злачынства.

У гэтай гісторыі ёсць не вельмі прыемнае месца. Як пішуць, адной з умоў вызвалення Баўмгертнера з беларускай турмы быў продаж акцый «Уралкалію» асноўным яго акцыянерам, Сулейманам Керымавым. І сапраўды, Баўмгертнера выправілі ў Маскву роўненька праз два дні пасля продажу Керымавым сваёй долі Міхаілу Прохараву. Такім чынам можна сказаць, што беларускія ўлады спрычыніліся да «рэйдарскага захопу» кампаніі.

Зараз Прохараў прадаў сваю долю Лабяку. Яшчэ 20% «Уралкалія» — ва «Уралхіма». «Уралхімам» кіруе Дзмітрый Мазепін, які 18 красавіка сустракаўся з Лукашэнкам і папярэдне абмяркоўваў узнаўленне супрацоўніцтва ў межах БКК. Гэта дало магчымасць Лукашэнку на Усебеларускім сходзе сказаць, што амаль кожны месяц у Адміністрацыю прэзідэнта ідуць звароты з боку новых акцыянераў «Уралкалія»: «Прыміце нас, хаця б прыміце». «Я кажу: будуць прапановы, гатовы з вамі сустракацца... Сёння яны гатовыя з намі аб'ядноўвацца. Мы не супраць, але на нашых умовах. Умовы нармальныя для іх», — сказаў Лукашэнка.

Сапраўды, аднаўленне працы БКК у ранейшых умовах было б выгадна для абодвух кампаній. «Разлад у шляхетным сямействе» выклікаў падзенне рынку калійных угнаенняў. «Беларуськалій» здолеў выкараскацца з гэтага крызісу толькі дзякуючы дэмпінгу. Напрыклад, пры «агульнапрынятым» кошце паставак угнаенняў у Кітай па $335 за тону, «Беларуськалій» прадаваў туды тону за $305. На рынку Бразіліі беларусы таксама збілі кошт на $10 за тону. Гэтая стратэгія называецца «аб'ём вышэй за цану»: можна прадаць больш, але танней, нарасціўшы сваю долю на рынку.

Але гэта ж прыводзіць да падзення выручкі. У першым квартале гэтага года «Беларуськалій» саступіў лідарства па прыбытковасці дачцэ «Газпрама» «Газпрам Трансгаз Беларусь». Ва «Уралкалія» сітуацыя яшчэ складаней — з-за затаплення шахты «Салікамск–2» у 2014-м годзе. А гэтая шахта давала 18% здабычы калію.




**40% акцый «Уралкалія» належыць «сябрам Беларусі»**

Такім чынам, аднаўленне дзейнасці БКК будзе карысным як «Уралкалію», так і «Беларуськалію». Да таго ж, пагадзіўшыся на офіс у Мінску, расіяне могуць мінімізаваць страты ад санкцый ЕС і ЗША, уведзеныя ў выніку ўкраінскай вайны.

Але, калі прыгледзецца да акцыянераў «Уралкалія» — не ўсё так проста. Дзмітрый Мазепін нарадзіўся 18 красавіка 1968 года ў Мінску, у 1985 годзе скончыў Мінскую сувораўскую ваенную вучэльню. Яшчэ год вучыўся на вайсковага перакладчыка. У 1986–1988 — Афганістан, перакладчык. У 1992 годзе закончыў эканамічны факультэт МГИМО, і ідзе, як ні дзіўна, на «нізавую працу» ў «Беларусьбанк», намеснікам дырэктара філіяла. У 1995 годзе выпраўляецца ў Расію, і ўжо ў 1997-м — віцэ-прэзідэнт Цюменскай нафтавай кампаніі, шчыльна сябруе з «Газпрамам». Паспяхова, з падачы «Газпрама», разбіраецца з «Сібурам». Пераносіць сваю цікаўнасць у хімічную галіну.

Дзмітрый Лабяк — аднакурснік Мазепіна па Мінскай суворaўскай вучэльні, яны нават служылі ў адной роце. Усе эксперты адзначаюць, што ў кампаніі Лабяка не хапіла б грошай выкупіць 20% «Уралкалія». Значыць, яму нехта дапамог. Хто — пытанне рытарычнае.

Атрымліваецца, што 40% акцый «Уралкалія» належыць як мінімум «сябрам Беларусі», калі не супрацоўнікам беларускага КДБ (вайсковыя перакладчыкі — іх «зона адказнасці»). РБК папярэджвае, што, калі Лабяк дзейнічаў у інтарэсах Мазепіна, то апошні можа сканцэнтраваць у сваіх руках і 50% акцый кампаніі. Але і сённяшнія 40% з'яўляюцца хоць і не кантрольным, але «блакуючым» пакетам акцый, які дазваляе ўплываць на дзейнасць і стратэгію прадпрыемства.

Тады зразумелым становіцца той самы непрыемны «манеўр з Сулейманам». Атрымліваецца, што беларусы ажыццявілі паступовы рэйдарскі захоп «Уралкалія». У такім выпадку мы чакаем хуткага ўзнаўлення дзейнасці БКК. На ўмовах Мінска, канешне.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Ахова «Кароны» адзначылася




**Ахоўнік крамы «Карона» ў Баранавічах спрабаваў перашкодзіць збору подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Таццяны Малашчанка.**

Увечары 12 ліпеня каля крамы «Карона» ў Баранавічах быў зладжаны пікет па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Таццяны Малашчанка. Людзі ставілі свае подпісы досыць актыўна, пакуль у працэс не ўключыўся начальнік змены аховы крамы.

Актывістка БХД Таццяна Малашчанка распавяла, што ахоўнік раптам запатрабаваў, каб збор подпісаў быў узгоднены з кіраўніцтвам «Кароны» і настойваў, каб ініцыятыўная група пакінула тэрыторыю каля крамы. А калі тыя не пагадзіліся — выклікаў міліцыянера, які дзяжурыў у краме.

Але прапаршчык Баранавіцкага аддзела дэпартамента аховы Дзмітрый Ківель змог спакойна і пісьменна разабрацца ў сітуацыі ды ўрэгуляваць канфлікт. «Ён паводзіў сябе карэктна і прыстойна, чаго нельга сказаць аб прадстаўніку аховы. Далей пікет прайшоў без эксцэсаў», — пракаментаваў сітуацыю праваабаронца Аляксандр Вайцешык, які назіраў за мерапрыемствам.

**novychas.by**

### ГОМЕЛЬ. Дызайнерскія вышымайкі ад «8 сакавіка»



**Гомельскае ААТ «8 сакавіка» стала адной з першых дзяржаўных фабрык, якія пачалі выпускаць адзенне з беларускім арнаментам у нацыянальных колерах — белым і чырвоным. Пры гэтым у новай калекцыі гомельскага вытворцы з'явілася адразу серыя дызайнерскіх «вышымаек».**

З надпісам лацінскімі літарамі «Belarus» на адной з іх у творчай манеры намаляваны нацыянальны арнамент у выглядзе Каляднай зоркі, на іншай — у выглядзе бусла, зубра і трактара — своеасаблівых сімвалаў Беларусі. Малюнак іншай мадэлі цалкам складаецца з арнаменту, ёсць таксама цішоткі з канкрэтнымі сімваламі арнаменту і тлумачэннямі іх значэнняў па-беларуску.

Новая прадукцыя з'явілася ў фірмовых крамах фабрыкі. Кошт — каля 10 новых рублёў за адзінку. Усе яны выраблены з бавоўны.

**Паводле «Гомель каталік»**

### ВІЦЕБСК. Людзей не цікавіць выбарчая кампанія



**Многія віцябляне нават не ведаюць, што ў краіне неўзабаве пройдуць выбары. Да такіх высноваў прыйшлі ўдзельнікі пікету па зборы подпісаў за вылучэнне ў кандыдаты прадпрымальніцы Ірыны Яскевіч.**

За чатыры гадзіны на пікеце было сабрана каля 60 подпісаў. Пікет праходзіў каля гандлёвага цэнтру «Эвіком», дзе Ірыну Яскевіч ведаюць як лідара прадпрымальніцкага руху. Таксама яна з'яўляецца сябрам АГП, і з віцебскімі мінакамі ўдзельнікі пікету гатовы былі абмеркаваць не толькі выбары, але і партыйную праграму «Мільён працоўных месцаў», якая прапануе шэраг эканамічных рэформаў.

«Аднак размаўляць з намі мінакі не імкнуліся, хутчэй наадварот , — кажа Ірына Яскевіч. — Было пару агрэсіўных выпадаў у бок «апазіцыі», было і некалькі канструктыўных размоваў з аргументацыяй «за» або «супраць» пераменаў у краіне. Некаторыя дагэтуль не ведаюць, што паставіць подпіс за вылучэнне кандыдата можна некалькі разоў, і што «прагаласаваць» і «падпісацца з вылучэнне» — гэта розныя рэчы. Аднак большасць людзей дэманструе поўную абыякавасць да выбарчай кампаніі. Людзі знявераныя і пераканаганыя, што «ўсё адно выберуць тых, каго патрэбна». Хто-ніхто нават баіцца падыйсці, каб пра нешта спытацца. Збіраць подпісы «па кватэрах» аказалася прасцей: людзі пачуваюцца ў большай бяспецы».

Пакуль у Віцебску выключна дэмакратычныя актывісты выходзяць на пікеты па зборы подпісаў. І гэтую з'яву дзяржаўныя СМІ асвятляць не спяшаюцца. Так, у абласной газеце «Витебские вести» была надрукавана толькі агульная інфармацыя пра тое, што «збор подпісаў па вылучэнні ў кандыдаты стартаваў». У гарадской газеце «Витьбичи» — толькі агульныя звесткі пра арганізацыю выбараў, якія газета ўжо загадзя назвала «працэсам дэмакратычным і свабодным». Нідзе не тлумачыцца, што грамадзянін мае права паставіць подпісы за вылучэнне некалькіх кандыдатаў.

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

# Асудзілі пенсіянераў за пікет

Марат ГАРАВЫ

**Суд Бабруйскага раёна і горада Бабруйска асудзіў актывістаў Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры за адзіночныя пікеты на сталічнай плошчы Свабоды.**

Любоў Санкевіч на акцыі 12 мая трымала плакат «Патрабуем ад чыноўніцтва выканання Канстытуцыі краіны!».

64-гадовая Любоў Санкевіч на свае звароты па грамадзянскай справе ў сувязі з незаконным звальненнем атрымлівае адпіскі 15 гадоў. Яе звольнілі з пасады бухгалтара Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў — філіі Мінскага трактарнага завода. Нягледзячы на тое, што па гэтай справе вынесены тры пракурорскія пратэсты, у тым ліку два з боку Генеральнай пракуратуры, Вярхоўны суд краіны адхіліў усе гэтыя пратэсты. Апроч таго, для прыватызацыі жылля Любоў Санкевіч дамагаецца справядлівай ацэнкі кошту сваёй двухпакаёўкі, дзе пражыла 33 гады.

За ўдзел у пікецы суддзя Таццяна Тарабуева пакарала пенсіянерку адміністрацыйным штрафам у памеры 20 базавых велічынь (420 рублёў). Гэта трэці адміністрацыйны штраф, які накладзены на жанчыну за апошнія 15 гадоў.

Суддзя Наталля Чарапуха асудзіла 68-гадовага Аляксандра Каваленку, які адмовіўся выслухаць прысуд і ў знак пратэсту пакінуў залю судовых пасяджэнняў. Справа ў тым, што 7 ліпеня на першым судовым пасяджэнні Наталля Чарапуха аб'явіла перапынак для запрашэння ў якасці сведкі супрацоўніка Цэнтральнага РУУС сталіцы, капітана міліцыі Дзяніса Прэсняка, які занатаваў сацыяльна-дэмаграфічныя дадзеныя на пенсіянераў-пікетоўшчыкаў. У сваю чаргу, Аляксандр Каваленка хадайнічаў пра ўдзел у разглядзе справы супрацоўніка УУС Бабруйскага гарвыканкама падпалкоўніка міліцыі Сяргея Рудзько, які пасля несанкцыянаванага пікета пенсіянера ў сталіцы склаў на яго пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

Паколькі названыя міліцыянты знаходзяцца ў адпачынку за межамі Беларусі, суддзя вырашыла абысціся без іх паказанняў.

Аляксандр Каваленка настойваў на неабходнасці прысутнасці Дзяніса Прасняка і Сяргея Рудзько ў судовым працэсе, паколькі, на думку пенсіянера, іх сведчанні маюць вялікае значэнне пры разглядзе адміністрацыйнай справы.

«Аднак суддзя не задаволіла гэтыя мае хадайніцтвы, бо Наталля Чарапуха спяшалася. Яе хвалявала не высвятленне праўды, а тое, што 12 ліпеня заканчваецца тэрмін разгляду адміністрацыйнай справы. Вось чаму, калі яна пачала зачытваць прысуд, я пакінуў залю судовых пасяджэнняў у знак пратэсту, бо Наталля Чарапуха груба парушыла Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь», — падкрэсліў Аляксандр Каваленка.

Дарэчы, на пікет ён выйшаў з плакатам «Чыноўнікі суду, дайце адказы на пытанні майго сына і яго адваката. Хопіць хавацца за адпіскамі».

Сын спадара Аляксандра адседзеў за кратамі 12 з 18 гадоў прысуду па абвінавачванні ў забойстве. Нягледзячы на тое, што Генеральная пракуратура краіны апратэставала гэты прысуд, Вярхоўны суд не толькі адхіліў пратэст Генпракуратуры, але і не дае адказы па сутнасці пытанняў, пастаўленых у зваротах асуджанага і ягонага адваката. Апроч таго, па сфабрыкаваным абвінавачванні ў распаўсюдзе наркотыкаў бацька асуджанага быў закратаваны на 9 гадоў, аднак праз 3 гады і 2 месяцы быў вызвалены, рэабілітаваны і атрымаў грашовую кампенсацыю за матэрыяльную і маральную шкоду ад незаконнага прысуду.

Усё гэтыя пакуты адмоўна адбіліся на здароўі Каваленкаў і дабрабыце сям'і.

Бацька перажыў аперацыю і інфаркт, зараз пакутуе ад экземы рук. З-за перажыванняў захварэла і маці асуджанага — спадарыня Валянціна Каваленка. Каб аплаціць паслугі адваката, сям'я вымушаная была прадаць прыватызаваную трохпакаёўку і зараз туліцца ў прыдбаным старым драўляным доме, які патроху спрабуюць добраўпарадкаваць.

# Камендант забараніла збіраць подпісы

**«Сваёй тэрыторыяй» назвала камендант інтэрнат «БелКрэда» ў Наваградку і забараніла там збіраць подпісы за Вадзіма Левана, які вылучаецца пры падтрымцы Руху «За Свабоду».**

«У Наваградку на вуліцы Чырвонаармейскай ёсць інтэрнат кампаніі ААТ «БелКрэда», там адбылася сутычка паміж сябрамі ініцыятыўнай групы Вадзіма Левана, які вылучаецца ад Руху «За Свабоду», з камендантам», — распавёў кіраўнік ініцыятыўнай групы Левана Дзяніс Тараскевіч.

Па ягоных словах, камендант інтэрната заявіла, што з'яўляецца сябрам ініцыятыўнай групы праўладнага прэтэндэнта Вольгі Папко (дырэктара замкавага комплексу «Мірскі замак»).

«Пры зборы подпісаў яна сказала, што гэта яе тэрыторыя, і мы не маем права збіраць подпісы ў гэтым інтэрнаце. Да таго, яна ўсіх жыхароў увяла ў зман, сказаўшы, што можна падпісвацца толькі за аднаго кандыдата», — патлумачыў Тараскевіч.

Ён адзначыў, што камендант нават не мела ўяўлення, за каго збірае подпісы: «падчас размовы яна называла прэтэндэнта не па імені, а дырэктарам Мірскага замку».

«Жыхары інтэрната распавялі нам, што пасля сутычкі яна пагражае ім высяленнем і праводзіць збор подпісаў за Папко, проста збіраючы пашпарты», — адзначыў кіраўнік ініцыятыўнай групы Левана.

Дзяніс Тараскевіч дадаў, што ў іх ініцыятыўнай групы таксама атрымалася сабраць подпісы пасля таго, як яны ўпэўнілі жыхароў інтэрнату, што можна падпісвацца за ўсіх кандыдатаў.

**Паводле рух.by**

# Рэабілітаваць Ларысу Геніюш

**Моладзь БНФ распачала кампанію за рэабілітацыю беларускай паэткі і грамадскай дзяячкі Ларысы Геніюш.**

Кампанія пачалася зборам подпісаў, якія будуць перададзеныя ў Генеральную пракуратуру ды Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь. За рэабілітацыю Ларысы Геніюш ужо падпісаліся каля 200 чалавек.

Таксама Моладзь БНФ мае намер дамагчыся ўключэння твораў Ларысы Геніюш у школьную праграму. З гэтай прапановай яны звернуцца ў Міністэрства адукацыі. Аднačасова будуць працаваць са школьнікамі, ладзіць літаратурныя чытанні, вечарыны, паездкі на радзіму Геніюш.

У планах усталяванне помніка і ўшанаванне памяці шляхам перайменавання вуліцы ў гонар Ларысы Геніюш.

Па словах лідара Моладзі БНФ Юрася Лукашэвіча, гэта ўжо не першая спроба рэабілітацыі Ларысы Геніюш. «На нашу думку, раней улады адмаўлялі ў гэтым, бо на той момант былі не гатовы да гэтага. Яны баяліся рэзанансу, бо як гэта прызнаць, што ў СССР парушаліся правы чалавека, асуджаліся невінаватыя і г.д. Але спадзяемся, што ўлады гатовы да змен, гатовы падтрымаць беларускасць і папулярызаваць творчасць выбітных беларусаў», — кажа Юрась.

Моладзь БНФ заклікае ўсіх неабыякавых людзей далучацца да кампаніі, ставіць свой подпіс і сачыць за навінамі. Падпісацца зараз можна ў офісе Партыі БНФ, на адмысловых пікетах у Мінску, Гомелі, Брэсце, Воршы і Магілёве.

**novychas.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Паўкроку да дэфолту

Сяргей САЛАЎЁЎ



Фота www.inforesist.org

**Калі б дэнамінацыі не было, варта было б яе прыдумаць. Зараз шмат хто бегае і блытаецца ў новых-старых грошах, і не звяртае ўвагі на эканамічны стан як уласны, так і ў цэлым па краіне. А краіна між тым блізкая да дэфолту.**

Разважаць пра гэтую прыкрую падзею прымушаюць не нейкія там МВФ ці Moody's, а родны Банк развіцця Рэспублікі Беларусь. У новым эканамічным аглядзе, які падрыхтавалі спецыялісты гэтай установы, адзначаецца, што да канца года адток актываў з краіны можа перавысіць $4 мільярды.

Гэта адбываецца з-за захавання дэфіцыту плацежнага балансу Беларусі і неабходнасці пагашэння валютнага дзяржаўнага доўгу ў 2016 годзе. «Неспрыяльная сітуацыя на рынках нафты і калійных угнаенняў вядзе да істотнага скарачэння ў 2016 годзе аб'ёму беларускага экспарту (у студзені-красавіку 2016 года на 16,1%) і пагаршэння балансу знешняга гандлю», — палічылі спецыялісты Банка развіцця. Як следства, адмоўнае сальда экспартна-імпартных аперацый з таварамі і паслугамі за студзень-красавік 2016 года склала $170 мільёнаў, што на $430 мільёнаў ніжэй за аналагічны перыяд 2015 года.

«Пагаршэнне сітуацыі ў знешнім гандлі таварамі і паслугамі адбіваецца на росце ў 2016 годзе дэфіцыту рахунку бягучых аперацый, які ў першым квартале 2016 года склаў $1,5 мільярда (14% да ВУП)», — канстатуюць спецыялісты банка. Між тым, праграма дзейнасці ўрада на 2016–2020 гады прадугледжвае, што дэфіцыт рахунку бягучых аперацый не павінен перавышаць 3% ВУП.

Канешне, аўтары агляду адзначаюць, што сітуацыя на ўнутраным валютным рынку, уключаючы рост чыстага продажу замежнай валюты з боку насельніцтва, ажыццяўленне новых дзяржаўных запазычанняў і паступленне ў бюджэт экспартных пошлін у замежнай валюце, спрыяла стабілізацыі ў апошнія месяцы ўзроўню золатавалютных рэзерваў.

Але гэтыя ЗВР на 1 чэрвеня ў міжнародным вымярэнні складалі 4 мільярды 217 мільёнаў 600 тысяч долараў ЗША. Што амаль роўненька ўпісваецца ў прагноз нашых гадавых страт.

Самае прыкрае тое, што абваліўся ў нас менавіта той экспарт, які прыносіў Беларусі найбольшыя выгоды. Па словах кіраўніка айчыннага МЗС Уладзіміра Макея, больш за ўсё праселі пастаўкі нафты і нафтапрадуктаў, звадкаванага газу і угнаенняў. Пры гэтым Макей заўважыў, што, калі выключыць гэтыя пазіцыі, то скарачэнне экспарту складае 6,8%.

Выйсце, на думку адмыслоўцаў, адно: «Рэфінансаванне абавязацельстваў у мэтах захавання рэзервовых актываў». То бок, трэба «пралангаваць» знешнія выплаты альбо за кошт новых крэдытаў, альбо за кошт адтэрміноўкі выплат па старых.

Наконт новых крэдытаў пакуль што нічога не чуваць. Спадзеў на МВФ не апраўдваецца. Дый нездарма — мы столькі разоў «кідалі» гэты фонд, абяцаючы адно, а робячы іншае, што да краіны няма даверу. Зараз нам кажуць: «Спачатку рэформы, потым грошы». А нам неабходныя менавіта грошы.

Значная частка нашых знешніх выплат прыпадае на Расію. Аднак і з гэтым не ўсё добра. Нагадаем, што зараз мы знаходзімся з нашым саюзнікам і стратэгічным партнёрам у стане новага нафтагазавага канфлікту. У сувязі з сусветным падзеннем коштаў на энерганосьбіты Мінск лічыць справядлівай цану на расійскі газ, які пастаўляецца ў Беларусь, у памеры $73 за 1 тысячу кубаметраў (цяпер цана на газ складае $132 за 1000 кубоў). У Расіі патрабуюць захавання дзейнага кантракту. У выніку доўг беларускага боку за пастаўкі прыроднага газу складае прыкладна $200 мільёнаў. У красавіку беларуская «дачка» «Газпрама» звярнулася ў Міжнародны арбітражны суд пры Беларускай гандлёва-прамысловай палаце ў сувязі з запазычанасцю па аплаце пастаўленага прыроднага газу.

Спробы дамовіцца па газе нават на ўзроўні прэм'ераў краін ні да чаго не прывялі. «Па выніках перамоваў прэм'ер-міністры Расіі і Беларусі Дзмітрый Мядзведзеў і Андрэй Кабякоў абмяняліся ацэнкамі па бягучым стане расійска-беларускіх узаемаадносін, уключаючы ўзаемадзеянне ў галіне ТЭК. Бакі дамовіліся правесці паглыбленыя кансультацыі з удзелам членаў урадаў абедзвюх краін і кіраўнікоў кампаній», — гаворыцца ў паведамленні ўрада Расіі.

А тым часам з газавым пытаннем увязана і скарачэнне паставак нафты ў Беларусь у трэцім квартале 2016 года на 2,25 мільёна тон нафты. Што, канешне ж, скароціць і нашы даходы ад экспарту нафтапрадуктаў.

У такой сітуацыі вельмі складана будзе прасіць Расію «рэструктураваць» альбо «рэфінансаваць» нашы пазыкі.

З гэтага вынікае і магчымасць тэхнічнага дэфолту краіны, калі мы проста не зможам заплаціць па знешніх даўгах. І не кажыце ў пачатку 2017-га, што вас не папярэджвалі.

Не дзіва, што ў апошнія часы, нягледзячы на, падавалася б, непахісную пазіцыю беларускага МЗС, у экспертных колах зноў пачаліся размовы пра расійскую авіябазу (ці яшчэ нейкую базу) у Беларусі. Сапраўды, грошы можна атрымаць не толькі эканамічным, але і палітычным манеўрам. «І за гэтую базу або за іншую ваенную прысутнасць будзе ісці вельмі жорсткая барацьба... Праблемы эканамічныя, якія ў нас раптам паўсталі, нежаданне зніжаць цану на газ, тое, што Расcельгаснагляд пастаянна выстаўляе да нас нейкія прэтэнзіі, цяжкасці, якія маюць беларускія пастаўшчыкі ў Расіі, — ва ўсім гэтым можна бачыць жаданне эканамічна націснуць на Беларусь. Можна меркаваць, што ўвосень патрэба ў грошах у Лукашэнкі будзе яшчэ большай, і тады будзе момант ісціны: якім будзе яго рашэнне па базе, ці ўдасца нам утрымаць свае пазіцыі?» — разважае ваенны эксперт Аляксандр Алесін.

Зразумела, уладам Беларусі база тут зусім не патрэбная. Па-першае, яна падрывае наш міжнародны імідж міратворцы, а па-другое, гэта будзе азначаць, што з Беларуссю ўжо няма пра што гаварыць — усе пытанні трэба вырашаць у Маскве, упэўнены палітолаг Арсень Сівіцкі.

Ці ўдасца нейк выкруціцца з гэтага тупіка, не ахвяруючы палітычнымі інтарэсамі — гэта вялікае пытанне.

Відавочнае толькі адно: хто яшчэ не збірае ў гаманцы беларускія капейкі — тэрмінова збірайце! У такіх умовах яны могуць выпасці са звароту, нават не дачакаўшыся «канца дэнамінацыі», які прыпадае акурат на 1 студзеня 2017 года. А значыць, хутка будуць мець нумізматычную каштоўнасць.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Эдуард Пальчыс



**Стваральнік сайта 1863x.com вырашыў напісаць кнігу пра свае прыгоды за апошні год.**

«Вырашыў напісаць кнігу, бо прыгодаў за апошні год хапіла, — паведаміў у лісце ў рэдакцыю «Нашай Нівы» блогер Эдуард Пальчыс, вядомы пад псеўданімам Джон Сільвер. — Але ці можна будзе пра іх распавесці так, каб нікому не нашкодзіць, не ведаю».

1863x — калектыўны блог, прысвечаны спробе аналізу бягучых палітычных падзей у Беларусі, Расіі і Украіне, а таксама беларускай гісторыі і культуры. Непадпісаныя матэрыялы востра крытыкуюць рэжымы Лукашэнкі і Пуціна.

Паводле Пальчыса, за вядзенне гэтай старонкі беларускія ўлады завялі на яго дзве крымінальныя справы — за распальванне нацыянальнай варожасці за артыкул «Забі «Рускі свет» і нібыта за распаўсюд парнаграфіі.

Ад пераследу блогер вырашыў хавацца ва Украіне, куды з'ехаў, парушыўшы падпіску аб нявыездзе, каб папрасіць палітычны прытулак. Увесь гэты час ён жыў з жонкай у Кіеве, адкуль працягваў весці блог. Пазней Эдуарда нехта выклікаў на сустрэчу ў Расію. Там стваральніка 1863x затрымалі, змясцілі ў СІЗА, а потым экстрадавалі ў Беларусь. У цяперашні час Пальчыс знаходзіцца ў Жодзінскім СІЗА.

## Мікалай Статкевіч



**ЦВК спачатку не зарэгістраваў ініцыятыўную групу былога палітвязня і экс-кандыдата ў прэзідэнты, потым «зарэгістраваў», потым зноў не зарэгістраваў.**

Ад пачатку было паведамлена, што ініцыятыўная група Статкевіча не зарэгістраваная праз непагашаную судзімасць палітыка. Пасля гэтага аргкамітэт па стварэнні БСДП (Народная грамада), які ўзначальвае Статкевіч, прыняў рашэнне аб адмове ва ўдзеле ў выбарах.

Аднак на наступны дзень на сайце ЦВК з'явілася інфармацыя, што група Статкевіча зарэгістраваная. Калі ўсе здзівіліся, сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік сказаў, што звесткі на сайце ЦВК аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы палітыка і некаторых іншых грамадзян з'явіліся ў выніку «тэхнічнай памылкі» — былі апублікаваныя спісы пададзеных на рэгістрацыю заяў замест зарэгістраваных груп.

«Гэта відавочная правакацыя супраць мяне, — пракаментаваў Статкевіч. — Яны спадзяваліся, што гэта пройдзе незаўважаным, і тады можна будзе сказаць назіральнікам АБСЕ, што Статкевіч не сабраў тысячы подпісаў».

Статкевіч быў асуджаны за падзеі 19 снежня 2010 года ў Мінску і правёў у турме амаль 5 гадоў. Палітык выйшаў на волю ў жніўні мінулага года, судзімасць з яго не можа быць знятая на працягу васьмі гадоў пасля вызвалення. ЕС патрабуе ад уладаў Беларусі рэабілітаваць былых палітвязняў.

## Уле Эйнар Б'ёрндален



**Васьміразовы алімпійскі чэмпіён распавёў пра планаванне будучыні яго з Дар'яй Домрачавай дзіцяці.**

Найперш, іх дзіця будзе жыць у Мінску, а не ў Нарвегіі, паведаміў Б'ёрндален. У 2017 годзе сям'я плануе ўехаць у новы дом. «Будаўніцтва ідзе выдатна. Дар'я будзе гэты дом ужо на працягу многіх гадоў. Гэты вялікі праект завершыцца ў наступным годзе. Цалкам дакладна, што наша дзіця будзе гаварыць на дзвюх, а то і трох мовах. Трэба ведаць некалькі моваў, гэта карысна. Я не кажу так шмат па-руску, толькі разумею. Думаю, буду навучацца разам з дзіцем», — прыводзіць словы Б'ёрндалена sports.ru.

Легендарны нарвежскі біятланіст абвясціў 5 красавіка, што працягне кар'еру да 2018 года і што ў кастрычніку ў іх з трохразовай алімпійскай чэмпіёнкай Дар'яй Домрачавай народзіцца дзіця. Б'ёрндален таксама распавёў, што да 18 гадоў дзіця будзе мець два грамадзянствы (у дачыненні да непаўналетніх беларускае заканадаўства гэта дазваляе), пасля чаго само вызначыць, мець нарвежскі ці беларускі пашпарт. Дар'я Домрачава пасля родаў плануе аднавіць трэніроўкі, каб падрыхтавацца да Алімпіяды–2018.

а | Азбука паліталогіі

# Па шляху ў тысячу лі

**Гістарычную тэрыторыю заходняй цывілізацыі вызначыць вельмі проста: яна там, дзе на гарадскіх плошчах стаяць ратушы.**



Сяргей НІКАЛЮК




Пачну з цытаты адзінага палітыка (АП), запазычанай з віншавання суайчыннікаў з Днём незалежнасці: «Лёсавызначальнае значэнне для нашага народа мае 3 ліпеня — дзень вызвалення сталіцы Беларусі ад фашыстаў».

Цікава, а што фашысты рабілі ў Мінску, каму і навошта спатрэбілася сталіцу Беларусі ад фашыстаў вызваляць? Адкрываю Вікіпедыю: фашызм (італ. fascismo, ад італ. Fascio — пучок, звязак, аб'яднанне) — таталітарная, нацыяналістычная палітыка дзяржаўнага капіталізму, якую праводзіў у Італіі прэм'ер-міністр Беніта Мусаліні з 1922 па 1943 год.

Сярод пытанняў, ініцыяваных АП, на лістападаўскім рэферэндуме 1996 года было і пытанне пра перанос Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі) на 3 ліпеня — «дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне».

Ужо цяплей. Гітлераўскія захопнікі былі не фашыстамі, а нацыстамі (нацыянал-сацыялістамі). Але хто, калі і навошта перайменаваў нацыстаў у фашыстаў?

## Два сацыялізмы

Я не гісторык і адназначна адказаць на пастаўленыя пытанні не магу. Але ў выступе па радыё 22 чэрвеня 1941 года народнага камісара замежных спраў СССР Молатава, у якім ён афіцыйна паведаміў савецкаму народу пра напад Германіі на Савецкі Саюз, Германія і германскі ўрад называюцца фашысцкімі. Словы ж «нацызм» у тэксце выступлення няма.

Няма яго і ў знакамітым звароце Сталіна ад 3 ліпеня. Каб лепш было зразумела перайменаванне, я прывяду адзін абзац са звароту, у якім самастойна правяду адваротную ракіроўку: «Як магло здарыцца, што наша слаўная Чырвоная Армія здала нацыянал-сацыялістычным войскам шэраг нашых гарадоў і раёнаў? Няўжо Нямецка-нацыянал-сацыялістычныя войскі на самай справе з'яўляюцца непераможнай арміяй, як пра гэта нястомна трубяць і выхваляюцца нацыянал-сацыялістычныя прапагандысты?»

Словы «сацыялізм» і «сацыялістычны» былі манапалізаваныя савецкай прапагандай яшчэ ў пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя, а да сярэдзіны 30-х, паводле афіцыйнай дактрыны, сацыялізм у СССР перамог «канчаткова і беспаваротна». Аднак пасля прыходу Гітлера да ўлады ў «адзінай у свеце сацыялістычнай дзяржавы» з'явіўся рэальны канкурэнт у барацьбе за сацыяльную справядлівасць сацыялістычнага разліву. Прызнаць ідэалагічную блізкасць з агрэсарам Сталін, зразумела, не мог. Таму ў сваім звароце ён кажа пра імкненне фашыстаў аднавіць уладу памешчыкаў і пра пагрозу прыгнёту, што навісла над свабоднымі народамі Савецкага Саюза.

Між тым нацыянал-сацыялізм паходзіць не з прывілеяваных класаў, дзе панавалі прускія традыцыі, а з глыбіняў народных мас. Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. Практыка — крытэр ісціны, а гістарычная практыка першай паловы XX стагоддзя сведчыць, што паміж марксізмам, нацыянал-сацыялізмам і фашызмам агульнага больш, чым адрознення.

Кніга эканаміста Фрыдрыха Хайека «Дарога да рабства» прысвечана аналізу трох галін таталітарызму. Будучы нобелеўскі лаўрэат скончыў яе ў 1943 годзе, калі зыход вайны быў яшчэ няпэўны. Цытую: «Наколькі лёгка было ператварыць маладога камуніста ў фашыста, і наадварот, было добра вядома ў Германіі, асабліва сярод прапагандыстаў абедзвюх партый. А выкладчыкі англійскіх і амерыканскіх універсітэтаў памятаюць, як у 30-я гады многія студэнты, што вярталіся з Еўропы, не ведалі цвёрда, камуністы яны ці фашысты, але былі абсалютна перакананыя, што яны ненавідзяць заходнюю ліберальную цывілізацыю».

Няма нічога дзіўнага ў тым, што ў Германіі да 1933 года камуністы і нацысты (а ў Італіі да 1922 года — камуністы і фашысты) часцей уступалі ў сутыкненне адзін з адным, чым з іншымі партыямі. Яны змагаліся за людзей з пэўным тыпам свядомасці, тлумачыць Хайек, і таму ненавідзелі адзін аднаго так, як ненавідзелі ерэтыкоў. Але калі для камуніста нацыст і фашыст, а для нацыста і фашыста — камуністы былі патэнцыйнымі рэкрутамі, г. зн. людзьмі, няправільна арыентаванымі, але якія валодаюць патрэбнымі якасцямі, дык з чалавекам, які па-сапраўднаму верыць у свабоду асобы, ні ў каго з іх не магло быць ніякіх кампрамісаў.

## «Усё ў дзяржаве»

Фармальна палітычная кар'ера будучага фюрэра нямецкага народа пачалася 12 верасня 1919 года з выступу на пасяджэнні Нямецкай рабочай партыі, заснаванай слесарам Дрэкслерам. На той момант у партыі было не больш за 40 сябраў. 24 лютага 1920 года неафіт у барацьбе за інтарэсы працоўных у адной з мюнхенскіх піўных абвясціў партыйную праграму з 25 пунктаў, якія спалучалі антысемітызм з патрабаваннямі адмены Версальскай дамовы, сацыялістычных пераўтварэнняў і моцнай цэнтральнай улады. У той жа дзень па прапанове Гітлера партыя была перайменавана ў NSDAP (Deutsche Nationalsozialistische Arbeiterparte — Нямецкая нацыянал-сацыялістычная рабочая партыя).

Большасць будучых лідараў нацызму і фашызму пачыналі як сацыялісты. Яшчэ больш характэрная такія трансфармацыі для шараговых удзельнікаў руху. У прыватнасці, упершыню слова «фашы» ў сэнсе палітычнага саюза было выкарыстана для саманазвы групай рэвалюцыйных дэмакратаў і сацыялістаў у Сіцыліі ў 1870-х гадах. З іскры разгарэлася полымя. Пасля шматлікіх расколаў і аб'яднанняў у студзені 1915 года ў Мілане была створана агульнаітальянская фашысцкая арганізацыя, якую ўзначаліў экс-рэдактар газеты «Будучыня працоўнага» і экс-сацыяліст Мусаліні.

Ідэалогіі фашызму і нацызму маюць у аснове шавінізм (крайняя форма нацыяналізму, прапаведзь нацыянальнай выключнасці). Але калі ў фашызму шавінізм накіраваны на ўзмацненне дзяржавы, адраджэнне былой Рымскай імперыі і на адзінства прадстаўнікоў імперскай нацыі, то нацыянал-сацыялізм — гэта тэорыя перавагі адной нацыі над іншай.

«Асноўнае палажэнне фашысцкай дактрыны, — паводле Мусаліні, — гэта вучэнне пра дзяржаву, яе сутнасць, задачы і мэты. Для фашызму дзяржава ўяўляецца абсалютам, у параўнанні з якім індывіды і групы — толькі адноснае. Індывіды і групы ўважаюцца толькі ў дзяржаве». Яшчэ больш канкрэтна гэта ідэя пазначаная ў лозунгу: «Усё ў дзяржаве, нічога супраць дзяржавы і нічога па-за дзяржавай».

Стаўленне нацыстаў да дзяржавы было прынцыпова іншым: гэта толькі сродак для захавання народа. Нацызм у якасці канчатковай мэты бачыў не падтрыманне дзяржавы, а перабудову яе ў расавае грамадства, на падтрыманне і захаванне яго чысціні і варта было накіраваць асноўныя сілы. Дзяржава пры гэтым разумелася як прамежкавы этап, неабходны на першых часах для будаўніцтва такога грамадства. Тут заўважым прамую аналогія з ідэямі Маркса і Леніна, якія таксама лічылі дзяржаву пераходнай формай на шляху будаўніцтва камуністычнага грамадства.

Падмацую нашы высновы цытатамі.

Мусаліні: «Фашызм — канцэпцыя гістарычная, у якой чалавек разглядаецца выключна як актыўны ўдзельнік духоўнага працэсу ў сямейнай і сацыяльнай групе, у нацыі і ў гісторыі, дзе супрацоўнічаюць усе нацыі».

Гітлер: «Я ніколі не пагаджуся, каб іншыя народы былі раўнапраўнымі з нямецкім, наша задача — заняволіць іншыя народы».

## Свабода губляецца паступова

Пры таталітарызме няма месца асобе. Усё паглынае дзяржава — як пры фашызме, або грамадства — як пры нацызме. Але таталітарызм застаўся ў мінулым. Ці азначае гэта, што «дарога да рабства» сёння надзейна заблакаваная? Тут варта прыгадаць старажытную кітайскую прыказку: «Дарога даўжынёй у тысячу лі пачынаецца з першага кроку». Пра тое, куды вядзе дарога, у прыказцы нічога не гаворыцца. Таму прапаную вярнуцца да лозунгу Мусаліні: «Усё ў дзяржаве, нічога супраць дзяржавы і нічога па-за дзяржавай».

Дапусцім, існуе эканамічная праблема, якую можна вырашыць двума спосабамі: даручыць дзяржаве або прыватнаму бізнесу, а ў выпадку грамадскай праблемы — дзяржаве або структурам грамадзянскай супольнасці. Калі мы выбіраем дзяржаву, то робім першы крок па дарозе, якая вядзе да рабства (фашызму). Зразумела, першы крок сам па сабе некрытычны. Сфера адказнасці існуе і ў сучасных дэмакратычных дзяржаў. Але тут важная тэндэнцыя. «Свабода, у чым бы яна ні палягала, — папярэджваў шатландскі філосаф Давід Юм, — губляецца, як правіла, паступова».

Гітлер, які назваў нацыянал-сацыялістычную рэвалюцыю «контррэнесансам», абраў правільнае вызначэнне, бо галоўным дасягненнем Адраджэння быў індывідуалізм. Слова «індывідуалізм» набыло сёння негатыўнае адценне і асацыюецца з эгаізмам і самалюбёнасцю. Але на індывідуалізме, які сыходзіць каранямі ў хрысціянства і антычную філасофію, збудаваная заходняя (еўрапейская) цывілізацыя. Яе асноўнай рысай з'яўляецца павага да асобы як такой, г.зн. прызнанне права кожнага адстойваць уласныя погляды.

Гістарычную тэрыторыю заходняй цывілізацыі вызначыць вельмі проста: яна там, дзе на гарадскіх плошчах стаяць ратушы (ад нямецкага Rathaus — літаральна «дом савета»). Па гэтым крытэры беларусы, безумоўна, з'яўляюцца еўрапейцамі. Да нашых дзён ратушы захаваліся ў Віцебску, Шклове, Чачэрску, Нясвіжы і Слоніме.

На жаль, «наша Расія» на працягу амаль трох стагоддзяў прыклала нямала намаганняў для змены цывілізацыйнай ідэнтычнасці беларусаў. Таму не варта здзіўляцца, што на рэферэндуме 1996 года электарат, паводле афіцыйных дадзеных ЦВК, дружна прагаласаваў супраць выбарнасці кіраўнікоў адміністрацый рэгіёнаў, пацвердзіўшы тым самым сваю нееўрапейскую ідэнтычнасць.

Наколькі можна давяраць афіцыйным дадзеным — пытанне асобнае. Але з вынікамі рэферэндуму грамадства пагадзілася, зрабіўшы тым самым чарговы крок па дарозе даўжынёй у тысячу лі. Куды вядзе гэты шлях, наглядна прадэманстраваў Пяты Усебеларускі народны сход.

# «Усе «сталіны» меркавалі, нібы яны вызначаюць каму і кім быць»

Аксана КОЛБ

**Напярэдадні 70-годдзя (нават не верыцца!) беларускі паэт, празаік і экс-кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў падзяліўся з НЧ думкамі пра тое, ці сумяшчальныя паэзія і палітыка, расказаў, пра што шкадуе і пра тое, як яму пашчасціла ў каханні.**

***— Уладзімір Пракопавіч, 70-годдзе — гэта своеасаблівы перыяд сталення мужчыны. Той юбілей, пад які спрабуеш ацаніць тое, што ўжо зроблена і акрэсліць, што яшчэ хочацца зрабіць. Пачнём з таго, чаго яшчэ прагне душа паэта і сэрца палітыка?***

— Так, перыяд своеасаблівы... Найперш у тым сэнсе, што няма калі ні ацэньваць тое, што ўжо зроблена, ні акрэсліваць тое, што яшчэ хочацца зрабіць. Проста штодня з відна да цямна нечым заняты, нешта раблю. Калі не ў паэзіі, дык у палітыцы, якая, як я ні спрабую аддаліцца ад яе, забірае вельмі шмат часу.

Да клопатаў звычайных дадаюцца яшчэ і форс-мажорныя. Вось улады адмовілі мне ў памяшканні для прэзентацыі новай кнігі «Толькі вершы». Нават на вуліцы, у Купалаўскім скверы, дзе яшчэ ў савецкія часы праводзіліся літаратурныя чытанні, на якія не патрабавалася ніякага дазволу, не далі магчымасці правесці сустрэчу з чытачамі. Ну й што — з гэтым змірыцца? З маім характарам — ніяк. А гэта дадатковыя праблемы, якія трэба вырашаць, нерваваца, марнаваць час...

Цікава, што мне не дазволілі правесці літаратурную імпрэзу каля помніка Янку Купалу, а я аповесці пра яго якраз заканчваю. І ў аповесці ёсць такі эпізод. Купала кажа Сталіну: «Можна міністра прызначыць міністрам, таварыш Сталін. А Пушкіна прызначыць Пушкіным нельга. Ён нарадзіўся паэтам». — «Паэтам — так, — згадзіўся Сталін. — Але Пушкіным ён прызначаны. Хоць замест яго мог быць прызначаны Баратынскі. Разумееце?.. Ці вы мяркуеце, што Купалам вы сталі, бо нарадзіліся Купалам? Гэта мы вас Купалам зрабілі. Мы вас ім прызначылі. Хоць маглі прызначыць іншага».

Дык вось усе гэтыя большыя, меншыя і зусім дробныя «сталіны» ва ўсе часы меркавалі і мяркуюць, нібы гэта яны вызначаюць, каму і як жыць, каму і кім быць. Што ж, у фізічным існаванні, у жыцці плоці, слабой, пудлівай і спакуслівай, яно, можа быць, і так. Але ў жыцці духу — не. І той жа Купала — гэтаму доказ.




Фота аўтара

**Я меркаваў у 2010 годзе, што паспрабую змяніць сітуацыю ў краіне, скінуць антынацыянальны рэжым. Не выйдзе — сысці. Але ж за гэтым паўстала столькі падзей, людзей... І як сыдзеш?**

***— Ці дала палітыка новае бачанне ролі і месца паэта, новы імпульс для творчасці, ці, наадварот, з'ела лёгкасць і асалоду творчасці?***

— Наўрад ці ў свеце ёсць нешта больш несумяшчальнае, чым паэзія і палітыка. Іншым разам я ад самога сябе нейкіх рэчаў не чакаю, самому сабе здзіўляюся. Дык вось тое, што ўжо колькі гадоў мне ўдаецца ў сабе палітыку з паэзіяй сумяшчаць — адно з самых вялікіх маіх здзіўленняў.

Праўда, апошнім часам пачаў адчуваць, што трыванне паэзіі праз такое сумяшчальніцтва можа скончыцца. Яна — дама раўнівая. Гэта палітыка трывае ўсё, як... ну, скажам, як дама лёгкіх паводзінаў, а паэзія можа сказаць: «Ды ідзі ты!..» Пакуль, дзякуй Богу, не дайшло да таго. Ну, можа быць, праз даўнасць адносінаў. Усё ж прывыклі адно да аднае за доўгае жыццё.

Хоць доўгага жыцця, пра што вам скажа любы з тых, хто з большага сваё пражыў, не бывае. Кожны з нас нараджаецца ўчора і памірае заўтра. Істотна тое, што мы здзяйсняем, што паспяваем здзейсніць між гэтымі днямі. У бліскавічнае імгненне быцця.

***— Паэт Някляеў збіраў стадыёны, палітык Някляеў сабраў плошчу, а хто вы сёння і чаго чакаць: стадыёнаў ці плошчаў? Прынамсі, чаго прагне чалавек Някляеў?***

— Ведаеце, Homo sapiens — гэта яшчэ не чалавек. Гэта, як вы можаце прачытаць у любой энцыклапедыі, усяго толькі адзіны, які выжыў (бо разумны), від роду Homo сямейства гамінід. І калі стаць чалавекам (як прадстаўніку віду), яму не надта цяжка, дык чалавекам быць, заставацца чалавекам — ой як не проста! Вось гэтага (найперш) прагну я сам — і хачу, каб прагнулі іншыя. Дзеля гэтага (хай некаму яно падасца высокаслоўным) я збіраў і стадыёны, і Плошчу. І калі нечага ад мяне чакаць, дык толькі гэтага — на іншае ў мяне ўжо часу няма.

***— Азіраючыся на свой насычаны жыццёвы шлях, можаце сказаць, што ёсць нейкае шкадаванне, што каб прайсці гэты шлях яшчэ раз — тое-сее можна было б і змяніць. Ці не трэба марнаваць час і сілы на шкадаванні, на такія вось рэфлексіі?***

— Кожнаму чалавеку ёсць пра што ў сваім жыцці пашкадаваць. Ну хоць бы пра тую дзяўчынку, якая азірнулася некалі на цябе на вуліцы — і ты хацеў пайсці, пабегчы за ёй, але не пайшоў, не пабег. А, магчыма, гэта лёс прайшоў міма... Так што калі нехта кажа, што ні пра што не шкадуе, дык ён, мусіць, не жыў. Ці кажа, абы казаць.

Можна было б, вядома, нешта ў мінулым зыначыць, але гэта — калі б можна было. Ды нельга. Таму я не рэфлексую праз тое, чаго не сталася, а жыву тым, што яшчэ можа быць.

***— Ці даводзілася рабіць выбар, пасля якога не можа быць зваротнага шляху?***

— Мы ў кожны момант закладнікі нашых папярэдніх рашэнняў, учынкаў, слоў. Умоўна кажучы, пацалаваў — жаніся. Вось я меркаваў у 2010 годзе, удзельнічаючы ў прэзідэнцкіх выбарах, што паспрабую змяніць сітуацыю ў краіне, праз Плошчу вырашыць праблему ўлады, скінуць антынацыянальны рэжым — і ці пан, ці прапаў! Не выйдзе — сысці. Але ж за гэтым паўстала столькі падзей, людзей... І як сыдзеш? Вось вам і шлях, з якога няма звароту.

Усё, што мы робім, — незваротнае. З гэтай незваротнасці і ствараецца, па вялікім рахунку, наш лёс.

***— Мужчыну робіць жанчына, якая побач. Вам з гэтым па жыцці шчасціла. Але ці лёгка з вамі крочыць па жыцці?***

— Са мной — наўрад ці. Але мне з ёй насамрэч пашчасціла.

Напачатку не выглядала, што гэтае шчасце, свята гэтае, назваўшыся Вольгай, будзе доўга трываць. Але вось трывае. І ведаеце, чаму? Бо як толькі мне пачынае здавацца, што я спазнаў усе яе таямніцы, глыбіні, яна пачынае адкрывацца глыбінямі новымі. Часам зусім нечаканымі, такімі, якім, здавалася б, у ёй, такой маленькай, няма дзе й змясціцца.

Як гэта было, скажам, у 2010 годзе, калі ўсплыла і ўсю яе запоўніла мужнасць. Неверагодная мужнасць. І выявілася яна не толькі ў тым, што Вольга была побач са мной па дарозе на Плошчу, што яна — толькі ўявіце гэта! — кідалася на спецназаўцаў, якія выкрадалі мяне са шпіталя, але і ў штодзённай, штоночнай (яна амаль дзесяць сутак, бо не ведала, жывы я ці мёртвы, вачэй не сплюшчыла) барацьбе за маё жыццё, за маё вызваленне. Зараз мала хто памятае, але гэта яна 20 снежня, калі ўвесь Мінск быў скаваны марозам і страхам, нічога і нікога не пабаяўшыся, склікала замежных журналістаў, назіральнікаў, дыпламатаў, заявіла пра злачынства, здзейсненае рэжымам у дзень галасавання на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі — і менавіта з гэтага ўзнялася ў свеце хваля падтрымкі палітвязняў, пачаўся палітычны і эканамічны ціск на рэжым. Яшчэ б дзень, міжнародныя назіральнікі, журналісты раз'ехаліся б — і рэзананс падзей у Мінску бы зусім не такі.

«Ці вы супакоіце вашу жонку, ці мы аддадзім яе мянтам, а ўжо яны яе...» — казаў мне, сярод ночы на допыт выцягнуўшы, старшыня КДБ, і я баяўся, што сапраўды могуць «аддаць мянтам», а яна нічога не баялася і, цяпер пра гэта ўжо можна казаць, урэшце дамаглася свайго, на той час немагчымага, неверагоднага: змусіла паказаць ёй мужа ў турме, каб ведаць, што ён жывы.

І гэта ўсё пры тым, што яна зусім не публічная. Як толькі я апынуўся няхай пад хатнім арыштам, але ўсё ж у сваёй хаце, яна тут жа стала адмаўляцца ад любых інтэрв'ю, замежных паездак, перастала сустракацца з журналістамі, палітыкамі — палічыла сваю місію завершанай. Нічым са свайго «зорнага часу» не скарысталася для сябе.

Яна шмат ад чаго дзеля мяне адмовілася. Нават занадта шмат ад чаго. Па сутнасці яна ахвяравала мне сваё жыццё. Не быць за гэта ўдзячным немагчыма. Ну й немагчыма з такім каханнем быць не шчаслівым...

*...Я з лёсам*
*Біўся на нажах,*

*Пакуль мяне ты не любіла.*
*Ты мне адкрыла смерці жах..*
*Не,*

*Жах жыцця ты мне адкрыла.*
*На міг*

*На ростанях Сусвету*
*Любоў*
*Знайшла маю душу.*

*Я не прашу кахаць за гэта...*
*Я літасці тваёй*
*Прашу.*

15 ліпеня 2016 | № 28 (493) Новы Час

# Беларусь без візы: мара ці рэальнасць?

Фаіна НАКАНЕЧНАЯ

**Адмена еўрапейскіх віз для беларусаў застаецца актуальным пытаннем. Працягваюцца бесперапынныя перамовы паміж Беларуссю і ЕС аб спрашчэнні візавага рэжыму. Паралельны працэс адбываецца ў Еўрапарламенце і Савеце ЕС, якія вырашаюць пытанне аб аднабаковым спрашчэнні візавага рэжыму для ўсіх замежных дзяржаў. У тым ліку, і для Беларусі.**

Паводле даследаванняў Еўракамісіі, толькі ў 2012 годзе з-за цяжкіх візавых працэдур Еўропа «страціла» $6,6 мільёна, якія магла б атрымаць з патэнцыйных падарожнікаў.

### Лёд зрушыўся

Эксперт у галіне візавай палітыкі Андрэй Елісееў лічыць, што лёд у візавым пытанні зрушыўся. Яшчэ ў красавіку Еўрапарламент і Савет ЕС скончылі ўнутраныя працэдуры разгляду законапраекта, які прапаноўвала Еўрапейская Камісія. Ужо ёсць адказы на пытанні, якім чынам і наколькі варта палегчыць візавыя правілы.

Законапраект дазволіць вырашыць тры візавыя праблемы: цяжкую працэдуру атрымання візы; недастатковае «пакрыццё» консульствамі ў краіне; немагчымасць знаходжання ў зоне Шэнгена больш за 90 дзён па звычайнай візе. Вырашыць усё гэта дапаможа «VIS registered regular traveller» — статус «рэгулярнага вандроўцы». Яму будуць выдаваць візу тэрмінам на тры гады мінімум. І дарэчы, у Беларусі ўжо з'явіліся шчаслівыя ўладальнікі трохгадовых шэнгенаў.

### Паступальны рух?

У пачатку мая на сайце zvarot.by з'явіўся калектыўны ліст у МЗС Беларусі «Аб спрашчэнні візавага рэжыму з ЕС». Галоўнымі пытаннямі былі тэрміны і стадыя перамоў па заключэнні пагаднення аб спрошчаным візавым рэжыме і рэадмісіі паміж Беларуссю і ЕС.

У адказе з МЗС на гэты зварот не адмаўляецца факт таго, што нашы суседзі (Расія і Украіна) ужо падпісалі такія пагадненні. У якасці плюсаў, якія ёсць у нашай краіне, прыводзіцца статыстыка адмоў у выдачы віз у Беларусі і краінах постсавецкай прасторы: «Нягледзячы на адсутнасць паміж Беларуссю і ЕС пагаднення аб спрашчэнні візавых працэдур, наша краіна мае самы нізкі працэнт з усіх краін СНД па колькасці візавых адмоваў — 0,3%» (дадзеныя за 2014 год. — аўт.).

Але МЗС не называе канкрэтныя тэрміны рэалізацыі пагаднення, і мяркуе, што «...рух у бок спрашчэння візавых працэдур павінен весціся паступальна, абдумана і ў інтарэсах грамадзян Рэспублікі Беларусь».

МЗС не заўважае, што «інтарэс грамадзян Рэспублікі Беларусь», насамрэч, вялікі. Калі Еўракамісія праводзіла падрыхтоўчую працу да законапраекта аб спрашчэнні візавага рэжыму, яна праводзіла апытанне, дзе жыхары замежных дзяржаў маглі б напісаць, якія спрашчэнні ім патрэбныя. Самімі актыўнымі рэспандэнтамі былі менавіта беларусы.

### Шэнген за 35 еўра

«Колькі гадоў таму ў Беларусі рабілі апытанне каля консульства краін ЕС аб выкарыстанні візавых пасярэднікаў. Тады палова апытаных былі ўпэўненыя, што і без гэтага хуткім часам візавы рэжым спрасціцца. На самай справе — гэта адчувальная тэма, яна займае час. Ідзе барацьба паміж рэалізацыяй невялікіх пунктаў у заканадаўстве ЕС», — распавёў Андрэй Елісееў.

Разыходжанні Еўрапарламента і Савета ЕС ёсць у пытаннях гуманітарнай візы, магчымасці візавай заяўкі ў іншым консульстве. Напрыклад, Еўрапарламент прапануе разгледзець адным з пунктаў «магчымасць запытваць гуманітарную візу ў любым консульстве або пасольстве краіны ЕС». Савет ЕС такую магчымасць адхіляе.

Трэба ўлічваць, што прапановы па спрашчэнні візавага рэжыму датычаць не толькі Беларусі. Стаіць пытанне аб спрашчэнні візавага рэжыму для ўсіх замежных дзяржаў.

«Што адбудзецца ў бліжэйшыя паўгода, год? Беларусь падпіша двухбаковае пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму, якое будзе прадугледжваць усталяванне стандартнага візавага збору — 35 еўра. Больш ліберальны рэжым выдачы візы з доўгім тэрмінам дзеяння атрымаюць тыя, хто часта падарожнічае, у каго ў пашпарце за год будзе больш за дзве візы» — перакананы эксперт. Але, па ягоных словах, пытанне пра зусім бязвізавы рэжым для Беларусі наогул не разглядаецца.




### Дзе ж турысты?

Пасля набыцця моцы двухбаковых пагадненняў не толькі беларусы змогуць падарожнічаць у Еўропу, але і замежнікі атрымаюць магчымасць убачыць Беларусь. Старшыня Рэспубліканскага саюза турыстычных арганізацый (РСТА) Валянцін Цэхмейстэр прапануе разгледзець спрашчэнне візавага рэжыму як адзін з інструментаў нарошчвання турыстычнага патоку.

Ён узгадаў Чэмпіянат свету па хакеі 2014 года, калі многія замежнікі прыязджалі ў нашу краіну не абавязкова для таго, каб паглядзець хакей. Яны карысталіся тым, што можна было без візы, толькі пры наяўнасці квітка на спаборніцтва, наведаць Беларусь.

«Іншаземцу хочацца прыехаць. У Беларусі спакойна, ціха. Можна вогнішчы разводзіць. У адрозненне, напрыклад, ад Галандыі», — упэўнены Валянцін Цэхмейстэр.

Нягледзячы на ўяўную адлігу ў дачыненні да Беларусі ў апошні час, паток вандроўнікаў у Беларусь не павялічыўся. Эксперты звязваюць гэта з галоўнымі міфамі пра краіну: сюды цяжка ўехаць, тут дрэнная турыстычная інфраструктура, віза — дарагая для турыстаў.

Міф пра тое, што Беларусь занадта дарагая для турызму не пацвярджаецца. «Калі мы гаворым пра розныя цэнавыя параметры, то датычна Беларусі не варта казаць пра дарагавізну. Для арганізаванай групы турыстаў віза каштуе 10 еўра. Хіба гэта грошы? Зараз тэндэнцыя: большасць людзей падарожнічаюць індывідуальна. Але ў нашай краіне выклікаюць непаразуменні ў замежнікаў асобныя бюракратычныя моманты», — адзначае Цэхмейстэр. Напрыклад, гэта абавязковыя страхаванне і рэгістрацыя іншаземцаў.

«Па досведзе мінулага Чэмпіянату свету па хакеі, мы актыўна падтрымліваем ідэю аб тым, каб распаўсюдзіць вопыт бязвізавага ўезду. І не толькі на спартовыя спаборніцтвы, а і на культурныя святы. Напрыклад, «Славянскі базар у Віцебску», — распавядае эксперт.

### Моцны штуршок

«Пры наяўнасці бязвізавага рэжыму, можна арганізаваць сумесныя турыстычныя праекты з краінамі-суседзямі. Зараз жа трэба памятаць, што хто б ні былі нашы суседзі — яны канкурэнты Беларусі на турыстычным рынку», — лічыць дырэктар фонду падтрымкі дзікай прыроды «Чырвоны бор» Сяргей Плыткевіч.

У адрозненне ад суседзяў, турыстычны імідж Беларусі — негатыўны. Найперш з'яўленне негатыву эксперты звязваюць з візавай палітыкай і правіламі перасячэння мяжы. Для тых жа, хто прайшоў выпрабаванне мяжой, Беларусь выглядае прывабнай.

«Тыя, хто апынуліся ў Беларусі, проста ў захапленні ад краіны. Ты едзеш. Напэрадзе сядзіба, а каля яе можна паставіць машыну і адпачыць. Так зрабіць, напрыклад, у Польшчы ці Германіі нельга. А ў нас поўная дэмакратыя», — распавядае Плыткевіч.

Але для прыцягнення турыстаў цяпер недастаткова мець бясплатныя паркоўкі і чыстую прыроду. У Беларусі павінна змяніцца стаўленне да турызму. «Шэсць — сем гадоў таму ў нас была плынь расійцаў. Савецкі ўзровень медыцыны, абслугоўвання ў Беларусі дастаткова высокі. І гэта расійцаў задавальняла. Для іх адпачынак быў танным. Калі курс памяняўся, цана стала для іх супастаўнай. Небагатыя людзі, якія ехалі ў Беларусь, ужо не могуць сабе гэтага дазволіць. А багатыя — больш патрабавальныя. У дзяржаве ж адчуванне, што «не трэба нічога рабіць — і так прыедуць», да гэтага часу захоўваецца», — адзначае эксперт.

Дзяржаўны турызм ж пакуль не адышоў ад савецкага фармату.

Беларусь Эканамічная

Выпуск №2 (ліпень)

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by







Аляксей ХАРКЕВІЧ

# Турызм: укладанняў шмат — аддачы няма

**Беларуская турыстычная рэчаіснасць аказалася не такой, як чакалася. У чым прычына?**

Ва ўсім свеце назіраецца імклівае павелічэнне турыстычных плыняў, таму ўрады большасці краін свету імкнуцца завабіць турыстаў да сябе і забяспечыць тым самым прыток інвестыцый у эканоміку краіны ды стварэнне новых працоўных месцаў.

Беларускія ўлады не маглі занадта доўга ігнараваць агульнасусветныя трэнды і ў 2011 годзе таксама прынялі Дзяржаўную праграму развіцця турызму ў Рэспубліцы Беларусь на 2011–2015 гады. Надышоў час падводзіць вынікі.

За апошнія дзесяцігоддзі беларускі ўрад набыў багаты досвед распрацоўкі розных галіновых праграм. Аднак у дачыненні да турызму скарыстоўваць яго не выпадала. Колькасць турыстаў не расце гэтак жа, як надоі малака. Аднак ствараецца ўражанне, нібы распрацоўшчыкі праграмы развіцця турызму меркавалі, што павялічыць колькасць замежных турыстаў нескладана. Дастаткова толькі стварыць неабходную інфраструктуру — і замежнікі абавязкова захочуць ацаніць новы турыстычны маршрут, а ў краіну пацячэ турыстычная плынь.

Аднак рэальнасць апынулася значна больш суровай. Нягледзячы на ўсе высілкі, замежнікі зусім не ацанілі беларускую гасціннасць. Колькасць замежных турыстаў за пяць гадоў, наадварот, скарацілася. Калі ў 2011 годзе колькасць паездак замежных грамадзян у Беларусь з рознымі мэтамі складала 5,7 мільёна, дык у 2015 годзе — толькі 4,4 мільёна.

Тое, што прагноз невыканальны, стала зразумела ўжо ў першы год рэалізацыі дзяржпраграмы. Але, нягледзячы на тое, што з кожным годам фактычныя дадзеныя ўсё больш не адпавядалі прагнозу, да 2014 года хоць бы назіраўся рост прытоку турыстаў. Аднак 2015 год развеяў апошнія ілюзіі: колькасць турыстаў скарацілася больш чым на трацінў і дасягнула мінімальнага ўзроўню за апошнія 6 гадоў.



Фота www.moldova-today.com

Плынь турыстаў з далёкага замежжа пачала паступова змяншацца яшчэ з сярэдзіны нулявых гадоў. Звязана гэта было ў першую чаргу з палітычным прычынамі. Прыняцце дзяржпраграмы ніяк не змагло пераламаць гэту тэндэнцыю. У той жа час беларускі турыстычны кірунак стаў карыстацца падвышанай папулярнасцю сярод жыхароў СНД, і ў першую чаргу Расіі. Аднак у 2015 годзе сітуацыю ўскладніў крызіс у расійскай эканоміцы. Плынь расійскіх турыстаў скарацілася на 30%, што прывяло да абвалу ўсяго беларускага турыстычнага рынку.




Найбольш зменшылася колькасць турыстаў са Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі. Брытанскіх турыстаў за пяць гадоў паменела амаль у 10 разоў. Істотнае павелічэнне плыні турыстаў назіраецца толькі з Латвіі, адкуль да нас прыехала на 834 чалавека больш, чым у 2010 годзе.

Неабгрунтаваныя прагнозы балюча ўдарылі па беларускай сферы гасціннасці. За пяць гадоў колькасць беларускіх гатэляў павялічылася ў паўтара разы. Калі сукупная ўмяшчальнасць усіх гатэляў у параўнанні з 2010 годам вырасла на 39%, дык колькасць пастаяльцаў за той жа перыяд, наадварот, скарацілася. У выніку неабгрунтаванага росту прапановы паслуг загрузка гасцініц знізілася з 45% у 2010 годзе да 29% у 2015-м. Прычым імклівае зніжэнне загрузкі гатэляў адбылося па ўсіх беларускіх рэгіёнах. Пры такой малой загрузцы большасць беларускіх гатэляў цяпер знаходзіцца на мяжы выжывання.

Адзіная турыстычная сфера, дзе ў апошнюю пяцігодку назіраецца істотны прагрэс, — аграэкатурызм. Гэты напрамак развіваецца ў Беларусі ўжо 10 гадоў. Аграэкатурызм і зараз застаецца вельмі прывабным напрамкам з пункту гледжання падаткаабкладання, паколькі штогадовы падатак на вядзенне гэтага бізнесу складае ўсяго адну базавую велічыню. Акрамя таго ўладальнікі аграсядзібаў маюць магчымасць атрымаць ільготны крэдыт на рэалізацыю свайго праекта ад ААТ «Белаграпрамбанк». Таму нядзіўна, што за перыяд з 2010 па 2015 год колькасць аграсядзіб вырасла на 81%. Прычым павелічэнне прапановы аграэкасядзіб было падмацавана ростам попыту на гэты від адпачынку.

З 2010 года колькасць наведвальнікаў беларускіх аграсядзібаў павялічылася ў 2,5 разы. Аднак у апошні год і гэты кірунак турызму перажывае спад, звязаны са зніжэннем рэальных грашовых даходаў насельніцтва.

Найбольш уражвае супастаўленне выдаткаў з атрыманым фінансавым вынікам. Гэты факт найбольш яскрава сведчыць аб правале дзяржпраграмы развіцця турызму. Складана сабе ўявіць, але планавыя выдаткі дзяржаўнай праграмы на развіццё турызму ў краіне за апошнія пяць гадоў апынуліся больш за сукупны аб'ём выручкі ад аказання турыстычных паслуг за той жа перыяд. І гэта нягледзячы на абвал курсу беларускага рубля!

У такой сітуацыі паўстае лагічнае пытанне: «Для каго ўсё гэта будуецца?»

Таму нядзіўна, што многія прыватныя інвестары не захацелі ўдзельнічаць у фінансаванні пацёмкінскіх вёсак і адмовіліся ад укладанняў у аб'екты турыстычнай індустрыі. У выніку за 2011–2014 гады аб'ём фінансавання дзяржаўнай праграмы быў выкананы толькі на чвэрць.

Ацэньваючы далейшыя перспектывы развіцця турыстычнай галіны ў краіне, неабходна прыняць да ўвагі той факт, што попыт на турыстычныя паслугі ў Беларусі — зусім не масавы. Паводле статыстыкі, 71% усіх выдаткаў на турыстычныя паслугі прыпадае на 20% найбольш забяспечаных беларусаў. А гэта значыць, што з пагаршэннем эканамічнай сітуацыі ў краіне надзеі на развіццё галіны неабходна звязваць толькі з прытокам замежных турыстаў.

Безумоўна, можна і далей наракаць, што ў Беларусі няма ні мора, ні гор, што персанал дрэнна валодае замежнымі мовамі, што маркетынгавае суправаджэнне турызму знаходзіцца на нізкім узроўні. Аднак нельга забываць, што для росту плыні замежных турыстаў у першую чаргу Беларусь павінна станавіцца зручнай для знаходжання.

Зручнасць павінна пачынацца з максімальнай адмовы ад візавага рэжыму і прыязнасці на мяжы, працягвацца наяўнасцю бясплатных паслуг для турыстаў, працай інфармацыйных цэнтраў і бясплатным Wi-Fi ў грамадскіх месцах і заканчвацца адэкватным коштам знаходжання ў краіне.

# Турысты — больш не авантурысты. Яны цяпер экскурсанты

Алесь ЧАРНЯК

**Упершыню за апошнія гады колькасць удзельнікаў тураў і экскурсій па Беларусі пераўзышла колькасць тых, хто ў якасці турыста ездзіў за мяжу. Пры гэтым у Беларусі экскурсантаў на парадак больш за турыстаў.**










Паводле апублікаваных Белстатам дадзеных, па Беларусі ў турах і экскурсіях летась удзельнічалі 836,8 тысячы чалавек, у той час як з набытым турам выязджалі за мяжу 738,7 тысячы чалавек — розніца склала 11,7% на карысць айчыннага турызму. З 2010 года ўпершыню ўнутраны турызм быў большы, чым выязны.

Цікава, што ў крызісны 2011 год, калі беларускі рубель рэзка дэвальваваўся ў тры разы, колькасць арганізаваных тураў толькі на сто тысяч скарацілася ў параўнанні з «багатым» 2010 годам, а потым гэты паказчык выключна рос.

Трэба зазначыць, што да 2012 года Белстат не ўлічваў у арганізаваны ўнутрыбеларускі турызм экскурсіі, таму пасля змены методыкі адразу адбыўся скачок. Але ў наступныя гады беларусы часцей выбіралі туры за мяжу, чым па Беларусі.

Пры гэтым наўрад ці можна адназначна казаць, што менавіта крызіс падрэзаў крылцы для адпачынку за мяжой, бо летась колькасць замежных паездак беларусаў не так моцна зменшылася.

Як бачым, пэўны пералом па колькасці замежных паездак беларусаў здарыўся ў 2014 годзе, але ў галіне арганізаванага выязнога турызму яшчэ працягваецца рост. Натуральна, шоп-туры ў Беласток не варта параўноўваць з адпачынкам на курортах Іспаніі ці наведваннем музеяў Парыжа, але і на культурны турызм, і на шопінг патрэбны грошы, якіх апошнім часам беларусам не хапае.

Унутраны турызм у асноўным трымаецца на жыхарах Беларусі. Традыцыйна замежнікі ў турах па Беларусі не перавышалі 20%, праўда, летась адбыўся скачок да 33%. Пры гэтым трэба зазначыць, што беларускія пагранічнікі не стаяць на мяжы з Расіяй, і таму ў статыстыцы Пагранкамітэта не ўлічваецца як асобная катэгорыя госці з Усходу. Але гэтыя дадзеныя ёсць паводле справаздач арганізацый, якія аказваюць турыстычная паслугі. Так, летась у Беларусі зафіксавана 79 тысяч арганізаваных турыстаў з Расіі — гэта 97% турыстаў з краін СНД, або 78% ад усіх замежных турыстаў, якія прыязджалі ў Беларусь.

Больш за ўсё замежных арганізаваных турыстаў, акрамя Расіі, дае Польшча — 3 542 чалавек. На другім месцы Латвія (2 243), потым ідуць Літва (1 595), Германія (1 456) і Украіна (1 351).

Трэба зазначыць, што да цяперашняга крызісу расійскай эканомікі пасля падзення коштаў на нафту і заходніх санкцый за акупацыю Крыма, расійскія грамадзяне актыўна набывалі пуцёўкі ў беларускія санаторыі і адпачывалі ў нашых аграсядзібах. Колькасць расійскіх турыстаў летась адкацілася нават крыху ніжэй за ўзровень 2010 года.

А між іншым санаторна-курортныя пуцёўкі і дагэтуль даюць асноўны прыбытак як унутранага, так і ўязнога турызму, тым часам як у гатэлях і аналагічных месцах часовага пражывання сабраць удаецца амаль удвая менш.

У беларускіх рублях фінансавыя паказчыкі растуць ад года да года. Але калі пералічыць іх па афіцыйным сярэднегадавым курсе ў долары, то сітуацыя не выглядае такой аптымістычнай.

Калі ацэньваць выручку ў свабодна канвертаванай валюце, то можна пабачыць, што нават такая палачка-выручалачка айчыннага турызму, як продаж санаторна-курортных пуцёвак, летась не вырас, а наадварот скараціўся ў параўнанні з 2014 годам на 32%. Аналагічнае змяншэнне можна назіраць і з выручкай ад аплаты пражывання ў гатэлях і ад аказання турыстычных паслуг.

Белстат дае таксама звесткі пра сярэднюю працягласць знаходжання турыстаў у Беларусі (5 дзён) і за мяжой (8 дзён). Цікава, што колькасць тых, хто набыў туры па Беларусі, летась нечакана падскочыла, але ўсё адно застаецца ў ценю колькасці ўдзельнікаў экскурсій.

У разрэзе беларускіх рэгіёнаў лепш за ўсё з прыцягненнем турыстаў сітуацыя ў сталіцы. Але разам з тым з 2013 года ў Мінску памяншаецца колькасць арганізаваных турыстаў. А вось у некаторых рэгіёнах, наадварот, заўважаны прырост. Па выніках 2015 года найлепшыя паказчыкі па аказанні турыстычных паслуг зафіксаваны ў Віцебскай, Брэсцкай і Мінскай абласцях. Нечаканы прырост колькасці турыстаў у 2015-м у параўнанні з 2014 годам выклікае пытанні, бо можа тлумачыцца як аб'ектыўнымі абставінамі, а, напрыклад, зменай методыкі ўліку. Пры гэтым ва ўсіх абласцях, акрамя названых лідараў, летась колькасць турыстаў паменшылася, а не вырасла.

А вось што да экскурсій, то тут у бясспрэчныя лідары выбілася Брэсцкая вобласць, якая за адзін год на парадак павялічыла іх колькасць. У 2015 годзе на Брэсцкую вобласць прыходзілася 45% усіх удзельнікаў унутрыбеларускіх экскурсій. Калі адкінуць гэты брэсцкі феномен, то на першым месцы па экскурсантах, як і па турыстах, будзе сталіца, пасля якой ідзе Мінская вобласць. Вядома, у Мінскай вобласці знаходзіцца Нясвіж, куды на экскурсію ў палац Радзівілаў няцяжка знайсці ахвотнікаў. Але ж ёсць і Мірскі замак, аднак статыстыка Гродзенскай вобласці не дае такіх значных паказчыкаў па экскурсіях, і нават саступае ў гэтым Магілёўскай вобласці.










**НЕКАТОРЫЯ ПАКАЗЧЫКІ РАЗВІЦЦЯ ТУРЫЗМУ Ў БЕЛАРУСІ**

| | 2012 | 2013 | 2014 | 2015 |
|---|---|---|---|---|
| **Усе турысты па Беларусі, з іх:** | 61 048 | 76 246 | 56 213 | 91 528 |
| Брэсцкая вобласць | 12 352 | 8 163 | 5 023 | 19 083 |
| Віцебская вобласць | 4 008 | 9 808 | 10 470 | 20 354 |
| Гомельская вобласць | 4 556 | 3 792 | 5 066 | 7 416 |
| Гродзенская вобласць | 3 650 | 9 021 | 2 384 | 1 858 |
| Мінск | 25 187 | 35 902 | 27 290 | 22 653 |
| Мінская вобласць | 7 429 | 6 234 | 4 150 | 18 895 |
| Магілёўская вобласць | 3 866 | 3 326 | 1 830 | 1 269 |
| **Усе экскурсанты па Беларусі, з іх:** | 602 490 | 578 848 | 647 489 | 745 248 |
| Брэсцкая вобласць | 83 267 | 111 959 | 96 835 | 339 720 |
| Віцебская вобласць | 94 426 | 66 959 | 79 953 | 41 247 |
| Гомельская вобласць | 30 497 | 20 818 | 30 232 | 23 034 |
| Гродзенская вобласць | 43 252 | 38 757 | 42 854 | 40 448 |
| Мінск | 110 326 | 125 502 | 154 311 | 131 249 |
| Мінская вобласць | 148 501 | 139 348 | 155 903 | 104 025 |
| Магілёўская вобласць | 92 221 | 75 505 | 87 401 | 65 525 |

# Ці знішчаць аграэкатурызм новыя правілы гаспадарання

Вольга ХВОІН

**«Калі агратурызм загнецца, то вінаватымі ў гэтым будуць чыноўнікі», — катэгарычна заяўляе старшыня праўлення БГА «Адпачынак у вёсцы» Валерыя Кліцунова.**



Паводле ўказа прэзідэнта № 372, уладальнікам сельскіх сядзіб дазволена мець да дзесяці пакояў, каб аказваць турыстычныя паслугі. Права на занятак аграэкатурызмам распаўсюджана не толькі на фізічных асоб, фермерскія або сялянскія гаспадаркі, але і на ўсе сельскагаспадарчыя арганізацыі, якія з'яўляюцца юрыдычнымі асобамі. Таксама можна звярнуцца ў ААТ «Белаграпрамбанк», каб папрасіць крэдыт у суме да 2 000 базавых велічынь на тэрмін да 5 гадоў (фізічным асобам — да 7 гадоў) з выплатай 5 % гадавых. Уладальнікі аграсядзіб плацяць мінімальны падатак — адну базавую велічыню на год (цяпер гэта 22 рублі).

Спрыяльныя ўмовы для вядзення спраў падштурхнулі многіх людзей узяцца за турыстычны бізнэс. У 2006 годзе ў Беларусі было 36 сядзіб, а сёння іх зарэгістравана 2 263. У 2014 годзе ў беларускіх аграсядзібах адпачылі каля 330 тысяч чалавек: 85 % беларусы, 15 % — замежнікі.

І вось у Міністэрстве спорту і турызму зразумелі, што такімі льготнымі ўмовамі з задавальненнем карыстаюцца асобы, якія пад выглядам агратурызму аказваюць нямэтавыя паслугі. Размова найперш пра здачу ў арэнду памяшканняў для карпаратываў, святаў, катэджаў на суткі.

«Што тычыцца ўнясення зменаў ва ўказ №372, яны ўжо наспелі, таму што такіх прэферэнцый, якія даюцца людзям, няма ні ў адной краіне свету», — сказаў намеснік міністра спорту і турызму Беларусі Міхаіл Партной напрыканцы 2015 года.

Чакалася, што ўжо ў пачатку 2016 года аграсядзібы пачнуць працаваць па новых больш жорсткіх правілах (хаця льготныя ўмовы былі замацаваныя да 2021 года).

Тым часам уладальнікі класічных аграсядзіб з трывогай чакаюць новых дакументаў, што будуць рэгламентаваць іх дзейнасць.

Аляксандр Крол яшчэ ў 2003 годзе пачаў працаваць у галіне агратурызму. «Кролава хата» месціцца ў Расонскім раёне Віцебскай вобласці. Месца далёкае, і турыстаў там не так многа, як у раскручаных сядзібах побач з Мінскам. «Пераважае старая і самаробная мэбля, печы і каміны складзеныя гаспадарамі, сцены з пацямнелых ад часу бярвення, поўная адсутнасць гламуру», — так апісваюць сваю сядзібу гаспадары. Яны ж — дасведчаныя турыстычныя інструктары, былі арганізатарамі краязнаўчых экскурсій, паходаў, падарожжаў. Пры




іх актыўным удзеле праводзіцца фестываль сельскага турызму «Заборскі фэст». Адпаведна, сядзіба прапануе гасцям актыўны адпачынак: пешыя, конныя, велапрагулкі, канькі, лыжы, тэніс, рыбалку, збор грыбоў і ягад.

Гаспадыня сядзібы Вера Крол, апісваючы расходы, гаворыць, што многа грошай сыходзіць на электрычнасць, дровы, газ у балонах. На сядзібу госці прыязджаюць пераважна летам, то атрымліваецца, што заробак сезонны. Пражыванне цягам сутак каштуе ў эквіваленце 10 долараў, харчаванне аплачваецца дадаткова. Але, па словах гаспадыні, на гэтым многа не заробіш. «Падняць плату за пражыванне наўрад атрымаецца, бо хто тады паедзе ў нашу вёску?» — расказвае пра эканоміку Вера Крол.

Яна распавяла, што неяк падбіла баланс выдаткаў-даходаў, атрымалася, што ў месяц аграсядзіба прынесла па 1,5 мільёна недэнамінаваных беларускіх рублёў.

«Дзе большая плынь людзей, там даходы больш. Зарабляюць найперш тыя, у каго стаўка на гатэльны і рэстаранны бізнэс. Даўно размова ідзе пра тое, каб размежаваць вясковыя сядзібы і гатэльны варыянт, — кажа Вера Крол. Яна ж прызнаецца, што паставіць сонечныя батарэі ці нават сучасны кацёл, каб перавесці жытло на паравое, а не пячное ацяпленне, сям'я не можа, бо дорага. — Падчас семінараў мы бачылі падобныя варыянты ў іншых гаспадароў, але гэта іншая капіталаўкладанні».

«Калі павялічыцца падатковая нагрузка, то сэнс працы для многіх губляецца. Можа, нехта сыдзе ў цень, будзе хаваць аб'ёмы паслуг. Я ведаю, што, калі сядзібы паспяхова развіваюцца, то ўласнікі самі пераходзяць на іншую ступень гаспадарання — афармляюць ІП, напрыклад. А хто робіць наадварот, то іх трэба прыцiскаць. Такая дзейнасць адразу бачная, дастаткова трапіць на падворак сядзібы. Толькі гэта ж з інспекцыямі трэба ездзіць, правяраць. Чыноўнікам працей забараніць. Але вялікіх грошай яны ўсё адно не збяруць з гаспадароў сядзіб, а працэс развіцця могуць спыніць, — разважае Аляксандр Крол. — Калі ў нас праводзіцца нейкі семінар у колькасці 10 чалавек, то што? Яны ж нармальна ўпісваюцца ў нашы ўмовы. Цяпер у нас адпачывае сям'я, і яны зладзілі сваім дзецям свята. Як гэта можна забараніць?»

Аляксандр Крол гаворыць, што кліентаў у яго паменела, але звязвае гэта найперш не з эканамічнымі праблемамі, а з ростам прапаноў, аб'ёму рэкламы. Ёсць сталыя госці, больш ездзіць расіян, бо недалёка мяжа з Расіяй.

Не заўважае значнага ўплыву праблем у эканоміцы на справы і ўладальнік сядзібы «Засценак Скрыплеў» у Валожынскім раёне Васіль Грынь. Паводле яго слоў, сядзіба мае выразны экалагічны ўхіл, колькасць гасцей стабільная. Сёлета былі групы турыстаў з Германіі і Польшчы. «Мы не прапануем паслугі «катэджа на ноч», таму і не адчуваем вялікіх ваганняў попыту. Але, калі перавесці прыбыткі ў валюту, то, канешне, менш цяпер», — гаворыць спадар Грынь.

«Засценак Скрыплеў» — гэта комплекс з двух жылых драўляных хат даваеннай пабудовы, з рэканструяваным інтэр'ерам 1930-х гадоў, лазня на дровах, прасторны навес-тэраса, летняя кухня. Гаспадары прапануюць гасцям сядзібы найперш актыўны адпачынак — сплавы на байдарках і каноэ, пракат ровараў і вандроўку па распрацаваных маршрутах на 20, 50 і 70 кіламетраў.

**Беларусь заняла другое месца ў намінацыі «Агратурызм» па выніках конкурсу National Geographic Traveler Awards 2015. У інтэрнэт-галасаванні бралі ўдзел расіяне. Ступень пазнавальнасці нацыянальнага прадукту (ці, дакладней, паслугі) — уражвае. Беларусь саступіла толькі Італіі (26 % галасоў), у нашай краіны — 22 %, Славакія набрала 20 %. У апытанні ўзялі ўдзел больш за 240 тысяч чалавек**

Васіль Грынь падкрэслівае, што зарабляе на актыўным адпачынку, а не на «кухні-начлезе», чым займаюцца большасць сядзіб вакол Мінска.

«Я пазіцыяную сябе як фолк-хостэл. Людзі плацяць за карыстанне рыштункам, за арэнду тэрыторыі кемпінга, начлег у сядзібе. Можна замовіць майстар-клас па рэгіянальнай кухні. Бываюць майстар-класы па музыцы, народнаму танцу. Я па адукацыі гісторык, у нашых мясцінах праходзіла лінія фронту падчас Першай сусветнай вайны. Мы рабілі ўжо джып-экскурсіі па гэтых мясцінах», — распавядае гаспадар сядзібы.

Да слова, таксама Васіль Грынь валодае турыстычным прадпрыемствам «Зялёная каманда». То бок аграсядзіба — не адзіная крыніца даходу.

Васіль Грынь гаворыць, што цяпер яго выдаткі найперш ідуць на бензін плюс амартызацыя машыны, каля 360 долараў за год выдаткоўваецца на электрычнасць, яшчэ прыкладна 120–130 долараў штогод трэба на пакупку 14 кубоў дроў.

У гаспадара добры агарод, з яго на стол ідзе каля 60% гароднiны-садавiны, ёсць 12 коз і 3 авечкі. Хутка можа з'явіцца конь і карова.

«Я раўняюся на стандарты Аўстрыі, Славакіі, Швецыі. Бачу сэнс у спалучэнні творчага жыцця з актыўным», — гаворыць Васіль Грынь, які да гэтага працаваў інструктарам на лыжных курортах у Аўстрыі.

Разам з тым ён упэўнена адзначае, што рэформа заканадаўства для аграэкатурызму патрэбная. Бо на пачатку льготныя ўмовы для ўласнікаў аграсядзіб былі скіраваныя на развіццё вёскі, цяпер жа пад адной маркай працуюць і сціплыя вясковыя сядзібы, і буйныя комплексы з вялікімі інвестыцыямі.

«Іншая справа, што абяцалі стабільнае заканадаўства да 2021 года, то трэба гэтага прытрымлівацца. А ідэя павялічыць падаткі, дык пакуль тоўсты ссохне, худы здохне. Для аграсядзібы з вялікім прыбыткам усё адно, 10 ці 100 долараў плаціць у год. Вясковым жа сядзібам гэта можа стаць сур'ёзным ударам», — разважае Васіль Грынь.

Ён адзначае, што льготныя ўмовы для аграэкатурызму сапраўды спрыяльныя для развіцця. І някепска было б уладам працягнуць гэтую лінію, ды падтрымаць стварэнне ў рэгіёнах невялікіх гатэляў, прыватных кавярняў, каб людзі былі на сваіх месцах.

Валерыя Кліцунова, старшыня праўлення БГА «Адпачынак у вёсцы», скептычна ставіцца да намеру чыноўнікаў увесці новыя правілы гаспадарання для ўласнікаў аграэкасядзіб.

«Бізнес развіваецца. Уласнікі сядзіб увесь час шукаюць новыя ідэі і падыходы. Напрыклад, нядаўна ў сядзібе «На Заручнай вуліцы» ў Брэсцкай вобласці спусцілі на ваду дракар вікінгаў, турыстам прапануецца аўдыёгід, іх суправаджае дзяўчына ў скандынаўскім строі. Распрацаваныя веламаршруты, сядзібы прапануюць кулінарныя экспедыцыі, праграмы па выбудоўванні каманднага духу, людзі пачалі працаваць з тураператарамі... Крызіс мы перажывём, а галоўная пагроза цяпер сыходзіць ад дзяржавы. У Міністэрстве спорту і турызму рыхтуюцца змены ва ўказ №372 «Аб мерах па развіцці аграэкатурызму». Гэтыя нованўвядзенні могуць негатыўна адбіцца на бізнесе ў вёсцы. Мне дзіўна, што галіна, якая развілася без дзяржаўных уліванняў, можа быць знішчаная. Калі агратурызм загнецца, то вінаватымі ў гэтым будуць чыноўнікі», — эмацыйна гаворыць Валерыя Кліцунова.

Таксама яна адзначае, што Міністэрства спорту і турызму дэманстратыўна не ідзе на дыялог з грамадскім аб'яднаннем.

«ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 2 | 15 ліпеня 2016 | № 28 (493) Новы Час

# Беларусь: што, як і за колькі

Сяргей ПУЛЬША

**Беларусь, як ні дзіўна, добра прадстаўленая ў інтэрнэце. На партале Booking.com можна замовіць гатэлі і матэлі, tripadvisor.ru падкажа, дзе паесці, ekskursii.by забяспечыць культурную праграму. Нельга не адзначыць афіцыйны сайт краіны — belarus.by. Гэта, бадай, найлепшы з афіцыйных сайтаў, значная частка яго прысвечаная турызму.**

Мы разлічвалі падарожжа на дваіх, якія жадаюць пабачыць цікавосткі Беларусі. І склалі своеасаблівы каштарыс гэтай вандроўкі.

## БРЭСТ. Не толькі крэпасць

У 4-зоркавым «Hermitage Гатэль» двухмесны нумар за ноч — ад 200 рублёў (новых). Ёсць зніжкі, пакой можна замовіць за 184 рублі. 3-зоркавая «Энергія» — 127 рублёў. Такая ж «Веста» — 137.

Шмат «гасцявых пакояў» — 209 прапаноў. Кошты не кусаюцца. Хостэл або апартаменты — ад 24,25 новых рублёў. Можна прыстойна пераначоўць за 40–70 рублёў.

Паглядзець: вядома, Брэсцкую крэпасць. Але ў горадзе ёсць шмат рамантычных фішак. Напрыклад, скульптурная кампазіцыя «Стары горад» («Закаханыя каты»). У парку інтэрнацыяналістаў можна пакарміць вавёрак, а на пешаходнай вуліцы запальвае і гасіць старадаўнія ліхтары ліхтаршчык. Кажуць, калі патрымацца за гузік на яго форме і загадаць жаданне, яно абавязкова здзейсніцца.

У Брэсцкай вобласці ёсць яшчэ музей-сядзіба «Пружанскі палацык», палац Сапегаў у Ружанах, камянецкая Белая вежа, сядзіба Нямцэвічаў у Скоках...

Экскурсіі: «Брэст і Брэсцкая крэпасць» — 155,32 BYN з чалавека, «Брэсцкая крэпасць — Белавежская пушча» — 159,22 BYN. «Архіпелаг Сапегаў (Слонім—Ружаны—Зэльва)» — 129,96 BYN з чалавека.

Паесці: харчэўня «Сваякі». «Беларускі інтэр'ер, беларуская кухня, нядорага». «Багацце нацыянальных страў, беларускі інтэр'ер», — адзначаюць наведвальнікі на tripadvisor.ru. «ФрыДом» — беларускі фастфуд. Наведвальнікаў дзівіць «дранікбургер». Дэмакратычныя кошты. Рэстаран «Хата ў Задворцах» — беларускія стравы, добры інтэр'ер, нацыянальны стыль, прыемныя кошты.

## ВІЦЕБСК. Шагал

У 4-зоркавым гасцінічным комплексе «Лучоса» двухмесны нумар — усяго за 90,93 BYN. Гатэль «Эрыдан» (тры зоркі) — 109,11 BYN. У 3-зоркавым «Залатым цяляці» нумар 64,66 BYN, а са зніжкай — 50,52 BYN. Гатэль «Ветразь» — 55,85 BYN.

Па Віцебску і вобласці сто варыянтаў — ад 28,29 BYN у хостэлах да 50–60 BYN у апартаментах.

Віцебск — гэта перш за ўсё Шагал: Дом-музей Марка Шагала і ягонага імя арт-цэнтр. Варта зайсці ў Мастацкі музей: тут знаходзіцца самая вялікая ў свеце калекцыя твораў Іегуды Пэна. У 16 кіламетрах ад Віцебску — сядзіба Рэпіна «Здраўнёва», якую той выкупіў на грошы, атрыманыя ад продажу карціны «Запарожскія казакі пішуць ліст турэцкаму султану». Сядзібны дом перабудаваны па малюнках мастака.

Экскурсіі: «Віцебск — горад Марка Шагала» — 134,52 BYN з чалавека, «Віцебск — Здраўнёва» — 136,52 BYN.

Паесці: рэстаран «Васількі» — выдатнае абслугоўванне, прымальныя кошты, смачна, нядорага. Амаль усё — народная беларуская кухня. «Віцебская Карчма» — установа вышэй сярэдняга і па цэнах, і па стравах, і па абслугоўванні, столік на верандзе лепш браніраваць загадзя. У меню ёсць «дранбургеры». «Сядзіба» — добрае размяшчэнне, беларуская кухня, нацыянальны стыль.



## ГРОДНА. Замкі і палацы

4-зоркавы «Нёман» — 163,67 BYN, цана са зніжкай 145,49 BYN. «Кронан Парк Гатэль» — BYR 297 BYN. 3-зоркавы «Гатэль Сямашка» — 288,94 BYN.

У адным з самых прапіяраных турыстычных гарадоў толькі 83 варыянты размяшчэння. У цэлым апартаменты ад 50 да 80 BYN.

Паглядзець: Каложская царква XII стагоддзя. Комплекс Фарнага касцёлу, з аптэкай-музеем лічыўся самым раскошным у Рэчы Паспалітай. На ім — самы стары дзеючы гадзіннік у Еўропе з унікальным маятнікавай механізмам XII–XIV стагоддзяў.

Мабыць, больш нідзе няма такой колькасці замкаў, як у Гродзенскай вобласці: Лідскі замак, Гальшанскі, Крэўскі, Любчанскі, Навагрудскі, Мірскі... Для аматараў эстэтыкі — Дом-музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку, сядзіба Агінскіх у Залессі, Шчучынскі палац Друцкіх-Любецкіх (дакладна паўтарае абрысы палаца Малы Трыанон у Версалі).

Экскурсіі: «Гродна — горад літоўскіх князёў і польскіх каралёў» — 144,52 BYN з чалавека. «Гродна — Аўгустоўскі канал» — 163,52 BYN, «Шляхам замкаў (Мір—Навагрудак—Ліда)» — 119,12 BYN

Паесці: «Замак Зеваны» — рэстаран шляхецкай кухні. Суадносіны цана/якасць ідэальная. У меню — мяса лася і зубра. Але знаходзіцца ў 10 хвілінах язды ад горада. «Наша кава» — невялікая і камфортная кавярня на вуліцы Замкавая па дарозе ад плошчы Савецкай да гродзенскіх замкаў. Кошты сярэднія, якасць высокая. Рэстаран «Карчма» — у цэнтры горада, стравы беларускай кухні, «старабеларуская гарбата». Ежа на дваіх — 25 BYN. Заказ нясуць доўга, да 50 хвілін.

## ГОМЕЛЬ. «Зона»

4-зоркавы «Парк-Гатэль Замкавы» — 121,24 BYN (нумар з дзіцем), 161,65 BYN — двухпакоевы без дзіцяці. 3-зоркавыя: «Турыст» — 60,62, са зніжкай — 52,54. «Парадыз» — 55,37. Amaks Vizit Hotel — 50,52. «Прэстыж» — 88,40. «Віла Ружа» — 121,24 BYN.

Гатэлі «без зорачак» здаюць пакоі па кошце хостэлаў. Гасцініца ГОЦОР па гульнявых відах спорту — 34 BYN, Hotel Oktyabrskaya — 34,35. Ёсць 76 апартаментаў і хостэлаў ад 40 да 60 рублёў.

Паглядзець: фішка Гомеля — палацава-паркавы ансамбль Румянцавых-Паскевічаў. Менавіта «ансамбль», паколькі сам па сабе парк — збор батанічнай экзотыкі, якая нейкім цудам расце на паветры. Пасля яго наведвання вы паверыце, што ў нас і бананы могуць вырошчваць. Па парку шмыгаюць вавёркі, якіх можна карміць, а ў Лебядзінай сажалцы — лебедзі, якіх карміць нельга. Для аматараў «мілітары» — музей ваеннай славы з пляцоўкай-выставай тэхнікі і музей крыміналістыкі, дзе можна нават паўдзельнічаць у экспертызе па раскрыцці злачынства.



У вобласці — знакаміты Веткаўскі музей стараверства і беларускіх традыцый, вёска Юравічы са стаянкай старажытнага чалавека (25 тысяч гадоў таму!), Юравіцкі Свята-Раства-Багародніцкі манастыр і Тураў. Турыстычныя маршруты рэгіёна падкасіў Чарнобыль, але ў горадзе ёсць афіцыйныя «сталкеры», якія могуць правесці легальную экскурсію ў зону адсялення.

Экскурсіі: «Гомель» — 140,12 BYN, «Гомель—Ветка» — 143,02 BYN, «Старажытны Тураў» — 126,32 BYN з чалавека.

Паесці: рэстаран «Бацькі». Самаабслугоўванне (набіраеш ежу на паднос). Нядрэнны даступны рэстаран хуткага харчавання. Карчма «Будзьма»: вельмі смачна, вялікія порцыі, але кошты вышэй, чым у сярэднім па Гомелі. «Загарадная Карчма Будзьма» — 10 кіламетраў ад Гомеля, аднак сапраўдная беларуская кухня і каларыт.

## МАГІЛЁЎ. Храмы

4-зоркавых гатэляў не знайшлося. 3-зоркавы «Турыст» — 54,56 BYN. «Gubernskaya Hotel» — 141,4 4 м. Апартаменты ад 46 да 90 BYN.

Паглядзець: Магілёўская ратуша, адноўленая ў 2008 годзе. На вежу можна падняцца і паслухаць трубача, які тройчы ў дзень грае фанфары і распавядае пра падзеі з гісторыі месца. Будынак Магілёўскага драмтэатра ў псеўдарускім стылі. У астатнім Магілёў — горад храмаў. Сабор Трох Свяціцеляў, Кафедральны сабор святога Станіслава, Свята-Нікольскі манастыр. Цікавы Магілёўскі мастацкі музей Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, працамі якога захапляўся Ілля Рэпін.

У вобласці Быхаўскі замак, Палацава-паркавы комплекс у Жылічах (у XIX стагоддзі быў сярод самых вядомых і раскошных рэзідэнцый нароўні з комплексамі ў Нясвіжы і Міры), Мсціслаў з унікальнай архітэктурай XVII–XX стагоддзяў, Бабруйск.

Экскурсіі: «Мсціслаў—Пустынкі» — 140,12 BYN, «Магілёў — Буйніцкае поле» — 110,12 BYN, «Такі да — гэта Бабруйск» — 95,38 BYN.

Паесці: няма беларускай кухні! Харчоўні італьянскія, кітайскія, турэцкія, балгарскія, а адметна беларускага на tripadvisor.ru — не знайшлі. Можа, кепска шукалі?

## МІНСК. Што заўгодна

668 прапаноў, шэсць 5-зоркавых гатэляў, пяць — 4-зоркавых і 17 3-зоркавых. Нумар у «Прэзідэнт-гатэлі» на дваіх — 240,45 BYN самы танны. Ёсць і за 875 на дваіх «з адным вялікім двухспальным ложкам». У 3-зоркавых гатэлях кошты — ад 86 («Арэна Мінск») да 186 BYN («Манастырскі»).

Для бюджэтнага адпачынку можна знайсці хостэлы і апартаменты ад 30 да 70 BYN.

Паглядзець: Траецкае прадмесце, Лошыцкі парк. У Мінску — каля 40 праграм для пешаходных і аўтобусных экскурсій ад тураператураў.

Экскурсіі: «Мінск — Нацыянальная бібліятэка» — 42,64 BYN. «Аглядная экскурсія па Мінску» — 41,90 BYN. «Пешаходная экскурсія па Мінску» — 31,22 BYN. «Храмы Мінска» — 45,20 BYN. «Мінск і Дудуткі» — 85,48 BYN. «Піваварны завод Аліварыя» (з дэгустацыяй) — 42,64 BYN.

Паесці: «Васількі» — безумоўны фаварыт па беларускіх стравах. Не саступае «Камяніца»: традыцыйная беларуская кухня, гатуюць вельмі смачна, порцыі вялікія: «Унікніце, 700 грамаў — порцыя дранікаў! Я з аднаго, ледзь не лопнуў, а іх там тры!» — водгук на tripadvisor.ru. Кошт на траіх з віном у межах 3 500 расійскіх рублёў (каля $50). «Грунвальд»: беларускі боршч і дранікі (па 2 порцыі) — амаль 50 BYN на дваіх. Смачныя недарагія сняданкі (каля 24 BYN беларускіх на траіх). Ежа смачная, порцыі паўнавартасныя. «У Францыска»: цэны крыху вышэй, але гэта апраўдваецца менавіта беларускай, а не сярэднееўрапейскай кухняй. Сярэдні чэк $15–25 з чалавека.

Алег НОВІКАЎ

# Ад мора да мора 2.0



**Brexit, з аднаго боку, астудзіў еўрафільскія настроі ўкраінцаў, а з іншага — выклікаў каласальны рост інтарэсу да праекту адраджэння Балта-Чарнаморскай садружнасці.**

Хаця цалкам пра наступствы Brexit казаць рана, яго негатыўны ўплыў на ўкраінскі еўрааптымізм ужо відавочны. У гэтым сэнсе паказальны ўсплёск публікацый, якія агітуюць за новы геапалітычны вектар Украіны — стварэнне Балта-Чарнаморскай садружнасці (канфедэрацыі) па аналагу з сярэднявечнай Рэччу Паспалітай. Прычым агітуюць за такі саюз не толькі на старонках СМІ. Ідэі будаўніцтва новага альянсу агучваюцца на самым высокім узроўні. Напрыклад, «Міжмор'е» публічна падтрымаў дарадца прэзідэнта і кіраўнік Камітэта па пытаннях выведкі пры прэзідэнце Украіны Ігар Смешко.

Прыхільнікі новага блоку бачаць яго як вось "Кіеў—Варшава—Вільнюс". У іншыя патэнцыйныя сябры Балта-Чарнаморскага клубу запісваюць Латвію, Эстонію, Славакію, Венгрыю і нават Турцыю. Кандыдатура Беларусі таксама не выключаецца, аднак разглядацца ў межах футуралогіі.




А вось наконт фармату аб'яднання адзінства сярод яго аматараў няма. Частка экспертаў разглядае магчымы саюз як працэс паступовага ўмацавання двухбаковых адносін. Іншыя падтрымліваюць больш шчыльныя варыянты супрацоўніцтва: напрыклад, на аснове прынцыпу канфедэрацыі. Цікава, што адзін з аргументаў на карысць першага варыянту — магчымасць паступова ўцягваць у блок Беларусь. Акрамя таго, ужо ёсць канкрэтны досвед двухбаковай кааперацыі: агульная вайсковая брыгада, дзе служаць жаўнеры Польшчы, Украіны і Літвы.

Сцэнары стварэння Балта-Чарнаморскай садружнасці розныя. Ёсць думка, што фундаментам будаўніцтва можа выступіць Вышаградская група, у склад якой уваходзяць Польшча, Славакія, Чэхія і Венгрыя. «Вышаградцы» могуць узмацніць вайскова-палітычную кааперацыю, запрасіўшы ў свае шэрагі Кіеў і Вільню. Ёсць праект будаўніцтва саюза знізу (яго, дарэчы, ужо рэалізуе грамадзянская ініцыятыва «Балта-Чарнаморская канфедэрацыя»). План заключаецца ў тым, каб стварыць секцыі арганізацыі ў кожнай краіне будучага саюза, і праз іх прапагандаваць інтэграцыю ў грамадстве, ціснуць на палітыкум.

Натуральна, паўстае пытанне — з якога перапуду краінам рэгіёну блакавацца з Украінай? Асноўным фактарам называецца «рэгіянальная спецыфіка». «Як па мне, ёсць тры Еўропы. Гэта, уласна, «Старая Еўропа», што называюць «Саюз вугалю і сталі» — Францыя, Германія і ўсё, што вакол гэтага. Другая — «Скандынаўская Еўропа» на чале з Вялікабрытаніяй, англа-саксонская мадэль. І трэцяя — цэнтральнаеўрапейская, да якой туліцца Украіна, з цэнтрам у Польшчы: Балта-Чарнаморскае «Міжмор'е». Відавочна, што краіны маладой дэмакратыі будуць вымушаныя аб'ядноўвацца вакол самага моцнага ўдзельніка — Польшчы», — кажа дыпламат, экс-пасол у Беларусі Раман Бяссмертны.

Імпульсам для інтэграцыі будуць агульныя выклікі — і перш за ўсё пагроза з боку Масквы, кажуць іншыя. Так, Gazeta.ua адзначае: «Падчас украінскага крызісу канчаткова высветлілася, што вядучыя ўдзельнікі NATO — Германія і Францыя — з'яўляюцца саюзнікамі Масквы. Краіны Балтыі і Польшча, якія з'яўляюцца чальцамі гэтага ваенна-палітычнага саюза, зразумелі: у выпадку расійскай агрэсіі іх ніхто не будзе бараніць, давядзецца спадзявацца на ўласныя сілы».

> **Прыхільнікі новага блоку бачаць яго як вось «Кіеў—Варшава—Вільнюс». У іншыя патэнцыйныя сябры Балта-Чарнаморскага клубу запісваюць Латвію, Эстонію, Славакію, Венгрыю і нават Турцыю. Кандыдатура Беларусі разглядаецца ў межах футуралогіі**

Трэба сказаць, што ў плану «Міжмор'я» хапае крытыкаў. Чамусьці гэта ідэя выклікала вельмі негатыўную рэакцыю сепаратысцкіх СМІ. «Паміж эканомікамі Украіны і Польшчы няма амаль ніякіх сувязяў, іх нічога не аб'ядноўвае (акрамя сезонных рабочых на клубніцы). Акрамя таго, у Польшчы вельмі моцныя забабоны супраць Бандэры, што непазбежна выклічa дадатковую канфліктнасць. А калі да ўсяго гэтага дадаць яшчэ і прыбалтыйскіх карлікаў, то гэта яшчэ больш знізіць стабільнасць дадзенай хімеры», — заключае маскоўскі публіцыст Аляксандр Роджэрс.

Ёсць у праекта крытыкі і сярод украінскіх нацыяналістаў, якія звяртаюць увагу на тое, што ідэя «Міжмор'я» ў Польшчы ў асноўным эксплуатуецца польскімі нацыяналістамі, і падаецца грамадству выключна як саюз, дзе дамінуе Польшча. Нездарма праект кааліцыі з Польшчай нават не разглядаецца ў Вільні — насуперак агульнай гістарычнай спадчыне.

Тут сапраўды ёсць закавыка. Многія ўкраінскія публіцысты гатовыя на сяброўства Украіны ў саюзе з Польшчай і Літвой выключна пры ўмове лідарства Кіева. «Ключавым гульцом Балта-Чарнаморскай садружнасці будзе Украіна, што выклікана яе цэнтральным размяшчэннем, прыроднымі рэсурсамі, пасіянарным насельніцтвам, эканамічным, тэхналагічным, навуковым і ваенным патэнцыялам», — марыць паліталаг Ігар Каганец.

Ці прапішацца ў палітычнай дыскусіі Украіны тэма Балта-Чарнаморскага саюза, сказаць цяжка. Але можна адзначыць, што ва Украіне паралельна праеўрапейскай запатрабаваныя і ёсць іншыя геапалітычная формулы.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Урэшце ў адказ на актыўныя спробы зблізіцца з Захадам можна чакаць і больш жорсткую рэакцыю расійскага кіраўніцтва. Напрыклад, РФ можа спыніць пастаўкі ў Беларусь энерганосьбітаў па льготных тарыфах, заблакаваць расійскі рынак для беларускіх вытворцаў. Нястачы перыферыйнага капіталізму, знішчаная эканоміка і разбураная сацыяльная сфера — такая доля ўжо спасцігла большасць краін Усходняй Еўропы, у тыл ліку Украіну. Такі ж лёс чакае і Беларусь. Адрозненне ад паўднёвай суседкі можа заключацца ў тым, што замест дзяржаўнага перавароту «знізу» тут можа адбыцца «майдан» зверху. Але ад гэтага яго наступствы будуць не менш катастрафічнымі.

**«Русская планета» (Расія)**

Такім чынам, іншаземец, які наведвае Мінск, можа падумаць, што сітуацыя з правамі чалавека змянілася. Але, слухаючы актывістаў, становіцца ясна, што нябачная, пастаянная пагроза назірання засталася. Распаўсюджванне інтэрнэту і мабільных тэлефонаў у Беларусі не прывяло да павелічэння свабоды для актывістаў, а стварыла больш жорсткія абмежаванні ў іх дзейнасці. Як выказаўся адзін актывіст: «Шмат рэчаў можна было б рабіць працай без пагрозы назірання». Калі вам трэба абмеркаваць некаторыя важныя праблемы, трэба сустрэцца з чалавекам асабіста. У дваццаць першым стагоддзі людзі сустракаюцца твар у твар, як і ў 90-я гады.

**«Democracy now» (ЗША)**

Зрэшты, ёсць меркаванне, што турбавацца ўсходняй суседцы зусім няма пра што, бо выказаныя Макеем намеры (базавая дамова з ЕС) такімі і застануцца. Ёсць маса прыкладаў, калі Мінск імітаваў перамоўны працэс або нават актыўна яго вёў, але тармазіў, калі справа даходзіла да падпісання. Напрыклад, так было з дзеяннямі па спрашчэнні візавага рэжыму з ЕС або па ўступленні ў СГА. Проста цяпер Мінску патрэбныя «дадатковыя балы» ў перамовах з Бруселем. Галоўнае, што цяпер трэба Мінску, — новыя крэдыты. Дзеля гэтага можна заявіць пра многае.

**«Независимая газета» (Расія)**

Пакуль заходнія саюзнікі Украіны раздумваюць, ці варта ўзбройваць Кіеў у вайне з Расіяй, «найбліжэйшы саюзнік» Расіі на працягу двух гадоў дапамагаў і дапамагае афіцыйнаму Кіеву ў барацьбе з «гібрыднай пагрозай» на Данбасе. Прычым, сумы гэтай дапамогі вымяраюцца сотнямі мільёнаў долараў. Такім чынам, Лукашэнка ўсур'ёз ставіць на поспех «праекту Украіна». Прычым, свядома падстаўляючыся пад гнеў Масквы, бо, пагадзіцеся, ужо вельмі дзіўны «саюзнік» атрымліваецца. З іншага боку, наша вымушаная шмат у чым арыентацыя на ваенную прамысловасць Беларусі не так ужо простая, па сутнасці. А калі ў Беларусі кардынальна памяняецца ўлада і апынецца, што нашы ракеты не лётаюць, а БТРы не ездзяць?

**«Экономические известия» (Украіна)**

Апошні год Беларусь і Латвія адзначаюць з'яўленне добрага дыялогу. А паколькі ў пачатку гэтага года ЕС зняў з Беларусь амаль усе санкцыі, а Аляксандр Лукашэнка стаў выязным, ужо ў бліжэйшы час бакі не выключаюць абмену візітамі на самым высокім узроўні.

**LSM (Латвія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Берні Сандэрс усё ж пойдзе ў прэзідэнты?

Нягледзячы на тое, што Берні Сандэрс прайграў праймерыз кандыдата ў прэзідэнты ЗША ад дэмпартыі, і нават пагадзіўся падтрымаць Хілары Клінтан, ён усё ж можа паспрабаваць стаць гаспадаром Белага дому. Для гэтага яму трэба прыняць прапанову Джыл Стэйн. Стэйн — без пяці хвілінаў кандыдат ад партыі Зялёных, кандыдатуру якой мае зацвердзіць збор партыі ў жніўні. У такім выпадку эколаг гатовая адмовіцца ад намінацыі на карысць Берні. Цяжка сказаць, ці згодзіцца апошні на такую прапанову, з улікам таго, што балатаванне Сандэрса справакуе раскол дэмакратычнага электарату і праклдзе кандыдату ад рэспубліканцаў Дональду Трампу шлях да перамогі. Праўда, адмова ад прапановы Джыл не выключае, што некаторыя прыхільнікі Сандэрса ўсё роўна адмовяцца галасаваць за Клінтан на карысць больш левага кандыдата. Сама Джыл разлічвае, што, дзякуючы прыхільнікам Сандэрса, кандыдат ад Зялёных у любым выпадку атрымае як мінімум 15 працэнтаў. Сацыёлагі, праўда, пакуль даюць зялёным 4–6 працэнтаў. Раней у гісторыі прэзідэнцкіх выбараў ЗША больш за 6 працэнтаў Зялёныя не атрымлівалі.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Наступным кіраўніком дзяржавы будзе Мацвіенка?

Словы прэс-сакратара кіраўніка РФ Дзмітрый Пяскова пра магчымасць таго, што вышэйшую пасаду ў Расіі будзе займаць жанчына, выклікала цікавую рэакцыю сярод палітолагаў. На думку шмат каго гэта азначае запуск праекту «Валянціна Мацвіенка — прэзідэнтка цыклу 2018–2024 гадоў». Абранне Мацвіенка, якая зараз кіруе Саветам Федэрацыі, стане «нашым адказам» на магчымую прэзідэнтку Хілары Клінтан і можа палепшыць імідж Расіі на Захадзе. Пры гэтым усім зразумела, што Мацвіенка будзе выключна фармальным кіраўніком дзяржавы, а рэальным — Уладзімір Пуцін, які атрымае пасаду прэм'ер-міністра (як ужо было ў час Мядзведзева). Такім чынам Пуцін атрымае магчымасць з 2024 года балатавацца яшчэ на два тэрміны. На гэты час Пуціну будзе 72 гады, і пры яго добрай фізічнай форме і магчымасцях сучасный медыцыны асаблівых праблем паўстаць не павінна. Сама Валянціна Мацвіенка, дарэчы, нядаўна намякала, што расіяне «мянтальна гатовыя» да жанчыны-прэзідэнта.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Выратаваць быка-забойцу



Іспанскія эколагі пачалі незвычайную кампанію ў абарону быка Ларэнца. Гэты бык стаў вядомым усёй краіне пасля таго, як 8 ліпеня забіў 29-гадовага тарэра Віктара Барыё. Трагедыя адбылася на вачах соцень гледачоў, якія прыйшлі паглядзець шоў, фінал якога выклікаў нацыянальны шок. Гэта першая смерць іспанскага тарэадора за апошнія 30 гадоў. Па слядах крывавай карыды на інтэрнэт-форумах аматараў бою быкоў пачалася кампанія за тое, каб як мага хутчэй забіць Ларэнца. Эколагі ў сваю чаргу патрабуюць выратаваць быка, які, на іх думку, стаў ахвярай крывавай забавы пад назвай «карыда». На думку назіральнікаў, забойства матадора зноў абвострыць дэбаты вакол праекту забароны карыды ў Іспаніі. На цяперашні час эколагі ўжо дамагліся забароны бою быкоў у шэрагу рэгіёнаў.

**Паводле іспанскай прэсы**

### УКРАІНА. ГУАМ адраджаецца?

Нечакана для ўсіх прэм'ер Украіны Уладзімір Гройсман запрасіў да сябе кіраўнікоў пасольстваў краін-чальцоў ГУАМ (міжнароднае аб'яднанне Грузіі, Украіны, Азербайджана і Малдовы). Падчас сустрэчы была агучана ідэя ўвядзення зоны свабоднага гандлю ў межах ГУАМ. Крок Гройсмана ацэньваюць як новую спробу адрадзіць блок, які яго аўтары разглядалі як альтэрнатыву СНД. Спроб актывізацыі ГУАМ ужо было некалькі, аднак усе яны па розных прычынах не мелі поспеху. Ці атрымаецца нешта гэтым разам, мы даведаемся ўвосень, калі ў Кіеве пройдзе сустрэча кіраўнікоў урадаў краін-чальцоў ГУАМ. У цэнтры размовы, як піша прэса, будзе тэматыка ўвядзення зоны свабоднага гандлю, паглыбленне эканамічнага супрацоўніцтва і магчымасць стварэння органаў узаемадзеяння бізнесу.

**Паводле ўкраінскай прэсы**



Фота http://kasper.livejournal.com

# Як Берлін зноў стаў сталіцай

*Алег НОВІКАЎ*

**Гістарычны пераезд нямецкай сталіцы з Бона ў Берлін пачаўся 25 гадоў таму. І, па сутнасці, працягваецца да сёння.**

На першы погляд, ідэя пераезду сталіцы ў Берлін з Бона была цалкам лагічнай. Паколькі Германія пасля падзення «берлінскай сцяны» аб'ядналася, то метраполіяй павінен быў стаць горад, які меў сталічны статус да расколу краіны. Аднак логіка — не аргумент для сучаснікаў, у тым ліку дэпутатаў, якія прымалі канчатковае рашэнне. Нездарма перавага аматараў пераезду сярод парламентароў у выніку галасавання склала ўсяго 18 галасоў.

Чаму вялікая частка нямецкай палітычнай эліты была не ў захапленні ад пераносу сталіцы? Па-першае, кошт пераезду быў па тых часах дастаткова вялікі — каля 7 мільёнаў цяперашніх еўра. Сярод бюргераў хапала незадаволеных тым, як палітыкі кідаюцца грашыма, і гэта ў той час, калі бюджэт ФРГ, па сутнасці, узяў на буксір усю гаспадарку былой ГДР.

Нельга не ўзгадаць таксама і тое, што пасля таго, як Германія ў 1945 годзе страціла Усходнюю Прусію і Сілезію, геаграфічна Берлін перастаў знаходзіцца ў цэнтры краіны.

Па-другое, сама ідэя Берліну як сталіцы Германіі выглядала вельмі супярэчлівай: з улікам таго, што менавіта гэты горад быў сталіцай дзяржавы, якая ўмудрылася за няпоўныя паўстагоддзя развязаць дзве сусветныя вайны. Пераезд у Берлін, асабліва левымі партыямі, разглядаўся як сімвалічнае адраджэнне духу германскага імперыялізму. Некаторыя прапаноўвалі ў якасці сталіцы нават Франкфурт-на-Майне, які лічыцца калыскай нямецкай дэмакратыі, — тут у 1848 годзе сабраўся першы нацыянальны парламент. Меў сталічныя амбіцыі і Патсдам — горад-спадарожнік Берліна, дзе ў свой час знаходзілася рэзідэнцыя культавага прускага імператара Фрыдрыха. Аднак гэтыя варыянты нават не разглядаліся ўсур'ёз.

Цікава, што самі берлінцы не вельмі жадалі пертваравацца ў жыхароў сталіцы. Асабліва былі незадаволеныя жыхары Заходняга Берліну. Падчас «халоднай вайны» захад Берліну мала цікавіў заможных бюргераў ФРГ, якія баяліся савецкіх танкаў. Таму кватэры ў цэнтральных кварталах былі даступныя для студэнтаў, працоўных мігрантаў, артыстычнай багемы. Перспектыва пераезду сталіцы на бераг Шпрэе азначала хуткую міграцыю сюды чыноўнікаў і буйных бізнесменаў, на гаманцы якіх будуць арыентавацца арандадаўцы і ўладальнікі крамаў (пасля пераезду, дарэчы, так і атрымалася). Аднак думку гараджан ніхто слухаць не хацеў. Пытанне

**Ідэя Берліну як сталіцы Германіі выглядала супярэчлівай: гэты горад быў сталіцай дзяржавы, якая ўмудрылася за няпоўныя паўстагоддзя развязаць дзве сусветныя вайны**

пераезду нават не разглядалася ў гарадскім Сенаце. Хапіла вуснай згоды тагачаснага бургамістра.

Жыхары ж усходненямецкай глыбінкі, наадварот, успрынялі плёткі пра новую сталіцу як падарунак нябёсаў. Наступствам пераезду мусіла стаць буйная рэканструкцыя гораду, а гэта значыць — працоўныя месцы, якіх у правінцыі пасля краху планавай эканомікі ГДР станавілася ўсё менш.

Настрої заходніх берлінцаў шмат у чым гарманіравалі з настроямі бонскіх чыноўнікаў, якія ў труне бачылі той Берлін. Іх абсалютна не натхняла ідэя жыць у горадзе, дзе няма добрай інфраструктуры, элітнага жытла і адпаведнай спажывецкай мадэлі. Не мелі ахвоты мяняць прапіску і дэпутаты.

Тым не менш у выніку «бонцы» апынуліся ў меншасці. Падчас дэбатаў у Бундэстагу пра новую сталіцу большасць прысутных пагадзіліся са спікерам хрысціянскіх дэмакратаў Вольфгангам Шойблe, які нагадаў, што пачынаючы ад блакады 1949-га Берлін быў у вачах немцаў сімвалам дэмакратыі і свабоды. Натуральна адзначалася, што феномен Берліна, дзе яшчэ нядаўна былі заходні і ўсходні сектары, як нішто іншае сімвалізуе ідэю нямецкага адзінства.

Праўда, канчатковай перамогі «берлінцы» так не атрымалі. Па-першае, на пераезд адводзілася тры гады. Тым, хто жадаў, дазволілі дапрацаваць да пенсіі ў Боне. Сам горад захаваў статус федэральнага гораду, паколькі абвяшчаўся «запасной» сталіцай. Па-другое, нейкім чынамі аматары бонскага варыянту пралабіравалі ідэю, каб шэсць з 24 міністэрстваў усё ж засталіся ў Боне. Так узнікла незвычайная з'ява, якую ў Германіі называюць «маятнік-сталіца». Карыстаючыся цяперашнім юбілеем як нагодай, адзін з міністраў выказаў намер перавезці ў Берлін усе федэральныя дэпартаменты.

Цяперашнім рэхам рашэння 25-гадовай даўніны сталі бойкі моладзі з паліцыяй на заштатнай вуліцы Rigaer. Тут з часоў ГДР засталіся некалькі дамоў, захопленых анархістамі. Як ні дзіўна, увесь гэты час улады на іх заплюшчвалі вочы. Аднак запушчаны пераездам сталіцы рост коштаў на нерухомасць сёння прымусіў мэрыю задумацца і пра эксплуатацыю аб'ектаў на Rigaer.

Увогуле, вельмі сімвалічна, што цяперашні юбілей Берліна як сталіцы прыйшоўся на глабальныя трансфармацыі, выкліканыя рэферэндумам у Вялікабрытаніі. Адным з яго наступстваў сталі дэбаты пра тое, што Лондан можа перастаць адыгрываць ролю сусветнай фінансавай пляцоўкі. Ужо зараз пра намер стаць новай фінансавай сталіцай свету заявілі Мадрыд, Парыж і Франкфурт. Пра сваё Сіці мараць і ў берлінскай ратушы.

# Ірландскае пытанне

Алег НОВІКАЎ

**Адна з галоўных задач Тэрэзы Мэй, новага брытанскага прэм'ера — не дапусціць «балканізацыі» Вялікабрытаніі. Менавіта ёй давядзецца ламаць галаву над тым, як утрымаць пад брытанскай каронай Паўночную Ірландыю.**



Другі артыкул Канстытуцыі Ірландскай Рэспублікі адназначна сцвярджае, што ў склад ірландскай дзяржавы «ўваходзіць тэрыторыя, якая складаецца з усяго вострава Ірландыя, прылеглых да яго астравоў і тэрытарыяльнага мора». Трэцяя частка кажа пра немінучае «нацыянальнае ўз'яднанне», маючы на ўвазе, што пяць паўночных правінцый выспы прыкладна сто год таму былі штучна адарваныя Лонданам ад Ірландыі і абвешчаныя правінцыяй Вялікабрытаніі.

Нягледзячы на тое значэнне, якое Асноўны закон надае праблеме рэінтэграцыі, агучаныя параграфы даўно не ўспрымаюцца як нешта мабілізацыйнае, накшталт устаноўкі на вайну з Лонданам. Хутчэй гэта своеасаблівая даніна мінуламу, калі анексія часткі Ірландыі ўспрымалася ірландцамі як нацыянальная траўма.

Аднак паступова, асабліва дзякуючы мірнай дамове 1998 года паміж каталікамі і пратэстантамі, тэма вяртання Ольстэру страціла мінулую актуальнасць. Хіба толькі партыя левых нацыяналістаў Sinn Féin марыла пра адзіную Ірландыю. Аднак нават яны бачылі ірландскае адзінства як справу нават не заўтрашняга дня. Напрыклад, мусіравалася ідэя правесці рэферэндум пра аб'яднанне пасля таго, як колькасна ірландцаў-каталікоў у правінцыі стане больш за пратэстантаў.



І раптам гэтай вясной тэма рэінтэграцыі Ірландыі зноў вярнулася ў палітычныя дэбаты — нечакана для ўсіх. Чыннікам тут быў сумнавядомы плебісцыт наконт выхаду Вялікабрытаніі з ЕС. Падчас яго падрыхтоўкі ўзнікла пытанне: ці могуць суб'екты Аб'яднанага каралеўства, жыхары якіх выступілі супраць Brexit, застацца ў Еўропе? У дачыненні да Паўночнай Ірландыі гэта мог быць увахад у склад Ірландыі, якая, як вядома, таксама ў ЕС.

Яшчэ не паспелі агучыць вынікі галасавання (паводле іх 54 працэнта паўночных ірландцаў абралі Еўропу), як праблема перайшла ў прыкладную сферу. Ужо 28 чэрвеня група лідараў Sinn Féin, якая, дарэчы, уваходзіць у рэгіянальны ўрад, настаяла на сустрэчы з прэм'ерам Паўночнай Ірландыі і запатрабавала сфармуляваць новую стратэгію адносін Белфасту з Лонданам.

Па словах аднаго з перамоўшчыкаў, стратэгія павінна заключацца ў наступным: «Мы павінны разам працаваць над тым, каб паважаць дэмакратычна выказаную волю нашага народа застацца ў ЕС праз дыялог з Ірландыяй». Пачаць запаветнае ўз'яднанне прапануецца праз рашэнне ірландскага ўраду надаць усім этнічным ірландцам на тэрыторыі вострава правы грамадзян.

Цікава, што «аранжысцкія» пратэстанцкія партыі, якія, падавалася, павінны ў любым выпадку падтрымліваць Лондан, асцярожна каментуюць сітуацыю, і нават кажуць «пра новыя рэаліі». Гэта тлумачаць тым, што субсідыі ЕС вельмі важныя для мясцовай сельскай гаспадаркі. Можа кепска адбіцца на эканамічным стане простых пратэстантаў і з'яўленне мытні на ірландскай мяжы.

Аднак у выпадку непасрэднай інтэграцыі краю эксперты прагназуюць рост напружанасці паміж грамадамі. 78 працэнтаў пратэстантаў галасавалі за Brexit, вельмі часта матываваныя прымітыўным жаданнем — зрабіць нешта такое, што не падабаецца каталікам. Дарэчы, сярод пратэстантаў папулярная версія, што адзіная Еўропа — гэта дыктат Германіі. А Паўночная Ірландыя ў часы Другой сусветнай была ледзь не нервам брытанскага ВПК, важнай базай вайсковага флоту. Таму Brexit успрымаецца тут як своеасаблівы працяг вайны з фрыцамі, якую вялі дзяды і прадзеды.

Пакуль ірландцы — патрыёты Белфасту чакаюць запуску працэдуры гістарычнага аб'яднання, у Дубліне трэцюю частку ірландскай Канстытуцыі сабатуюць. Мяркуючы па словах дырэктара ірландскага МЗС, мясцовы ўрад больш непакоіць пакуль не зразумелы будучы памежны рэжым. Таксама ірландцы баяцца, што землятрус на лонданскай біржы адаб'ецца і на ірландскіх эканамічных індэксах.

Нарэшце, трэба сказаць, што не ўсе ірландцы, як не дзіўна, жадаюць адзінства з суайчыннікамі. Напрыклад, жорстка супраць гэтага выступаюць феміністычныя цэнтры. Паколькі Ірландыя — вельмі каталіцкая краіна, і аборты тут забароненыя, ірландкі вырашаюць праблему за кошт візітаў у адпаведныя ўстановы больш ліберальнай Паўночнай Ірландыі.

Дзіўнаватая, дарэчы, у гэтым пытанні пазіцыя Брусэлю. Ён ужо даў зразумець, што паважае жаданне застацца рэзідэнтамі Еўрасаюзу тых жа шатландцаў. А вось наконт перспектыў ірландскага адзінства рыторыка больш асцярожная. Нямецкі канцлер Ангела Меркель паабяцала толькі тое, што «голас Паўночнай Ірландыі будзе пачуты».

Пра магчымую развязку рэбусу ірландскай інтэграцыі «Новаму Часу» распавёў адзін з былых лідараў ірландскай партыі Зялёных **Робі Вільман**:

— Думаю, сітуацыя застаецца падвешанай, пакуль не будуць вядомыя пазіцыі бакоў на перамовах адносна новага фармату адносінаў паміж Лонданам і Брусэлем. Найперш важнае пытанне мяжы. Аднаўленне сапраўднай мяжы з мытняй і візамі, на думку ірландскіх патрыётаў, стане пачаткам ізаляцыі паўночных ірландцаў ад ірландскага дому. Аднак нават калі будуць непаразуменні, эскалацыі сітуацыі я не чакаю. Сумная статыстыка — каля трох з паловай тысяч забітых простых грамадзян за 30 гадоў каталіцка-пратэстанцкага супрацьстаяння ў мінулым стагоддзі, — яшчэ доўга будзе стрымліваць палітыкаў ад радыкальных крокаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Амурбек Тэкебаеў



Лідар кіргізскай Сацыялістычнай партыі «Ата-Мекен» і яго сябры прапанавалі законапраект, які аналітыкі называюць рэвалюцыяй у грамадзянскім праве постсавецкіх краін. Калі закон будзе прыняты ў цяперашнім выглядзе, улады атрымаюць права прымусова забіраць ва ўладальнікаў жыллё ў цэнтры сталіцы.

Ініцыятары законапраекту лічаць, што будаваць новыя прыгожыя дома ў Бішкеку перашкаджаюць уласнікі жылля, якія «неапраўдана завышаюць кошт зямельных участкаў». Барацьба за прыгажосць і супраць спекулянтаў, па версіі ініцыятараў, будзе выглядаць так: інвестар, які жадае пабудаваць дом у цэнтры Бішкека, звяртаецца ў мэрыю, тая дасылае спецыяльную камісію — незалежных рыэлтараў і ацэншчыкаў, якія ацэняць дом і ўчастак зямлі, на якой ён стаіць. Згоды гаспадара на адчужэнне ўласнасці ніхто пры гэтым пытаць не будзе. Жыллё адыходзіць на баланс мэрыі, а былы ўладальнік на атрыманыя ад забудоўшчыка грошы купляе новае жыллё. Калі, вядома, грошай гэтых хопіць.

Пры ўсёй арыгінальнасці прапановы, яна карыстаецца вялікай падтрымкай у грамадстве. Вакол кіргізскай сталіцы за гады незалежнасці вырасла сапраўднае гета з нейкіх пабудоў. Чамусьці іх жыхары лічаць, што рэалізацыя ідэі Тэкебаева дапаможа ім пераехаць у больш камфартабельныя апартаменты ў цэнтры горада.

### Фраўке Петры



Лідар правапапулісцкай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD) пасварылася са сваімі паплечнікамі, стварыўшы падставу спадзявацца, што правыя папулісты не пройдуць у Бундэстаг на выбарах у наступным годзе.

Яшчэ прыкладна тыдзень таму рэйтынг «Альтэрнатывы для Германіі» зашкальваў за 20%, што было сур'ёзным выклікам нямецкай дэмакратычнай мадэлі. І тут нечакана супраць Фраўке паўстала партыйная секцыя ў Штутгарце. Лічыцца, што канфлікт здарыўся на глебе антысеміцкіх прамоваў, якія дазвалялі сабе тутэйшыя актывісты «Альтэрнатывы для Германіі». Правадырка AfD, зацікаўленая ў салідным іміджы партыі, вырашыла асабіста паразмаўляць з «антысемітамі». Скончылася яе місія банальнай фізічнай бойкай у партыйным офісе. Вынікам канфлікту сталі не толькі траўмы яе ўдзельнікаў, але і дыскрэдытацыя партыі. Папулярнасць «Альтэрнатывы для Германіі» скарацілася за некалькі дзён да 10%. Канкурэнты AfD спадзяюцца, што ўнутрыпартыйны крызіс зацягнецца да асноўнай фазы выбарчай кампаніі.

Праўда, нельга забываць, што прыкладна год таму ў шэрагах «Альтэрнатывы для Германіі» таксама меў месца скандал, у выніку якога партыю нават пакінуў яе заснавальнік. Гэта таксама на нейкі час падарвала пазіцыі AfD, аднак ва ўмовах міграцыйнага крызісу і росту еўраскептычных настрояў правыя папулісты хутка аднавілі свае рэйтынгі.

### Марыно Мурыльё



Міністр эканомікі Кубы нечакана прызнаў, што эканамічны крызіс у саюзнай Венесуэле можа кепска паўплываць на кубінскую сітуацыю. Прычым настолькі моцна, што кубінцаў заклікалі рыхтавацца да праблемаў са святлом.

Такога ў Гаване ніхто не чакаў, паколькі не так даўно Злучаныя Штаты знялі з краіны гандлёвае эмбарга, што выклікала бум замежных інвестыцый у курортны сектар і нерухомасць. У мінулым годзе кубінскі ВУП падскочыў на 4 працэнты, што вельмі істотна для любой нацыянальнай гаспадаркі ў час крызісу. Лічылася, што цяжкія часы прайшлі, і раптам урад папярэджвае, што краіна можа вярнуцца ў 90-я гады, калі выключэнне электрычнасці было звычайнай справай, з-за недахопу бензіну людзі калектыўна пераселі на ровары, а ў побыт увайшлі алейныя лямпы.

Праўда, на думку экспертаў, гэта яшчэ не самае кепскае. Пры ўсіх сваіх цяжкасцях Нікалас Мадура працягвае пастаўкі таннай нафты на Кубу. У выпадку краху венесуэльскага рэжыму кубінскую гаспадарку чакае моцны накаўт. У сувязі з гэтым некаторыя ўзгадалі, што ў 1990-я крызісная сітуацыя выклікала вулічныя пратэсты — феномен у гісторыі кастраўскай Кубы. Прагназуецца, што «вяртанне» Кубы ў 1990-я гады можа зноў рэанімаваць пратэстны рух.

# Вільня як разменная манета



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Бальшавіцкая Расія заключыла з Літоўскай Рэспублікай мірную дамову, паводле якой старажытная сталіца Вялікага Княства Літоўскага з часткай тэрыторыі была перададзена літоўцам. Здарылася гэта 12 ліпеня 1920 года.**

## Геапалітычныя гульні

Пасля распаду імперыі Раманавых шматлікія краіны Усходняй Еўропы заявілі пра сваю незалежнасць. Не выключэннем стала і Беларусь. Аднак абараніць сваю самастойнасць Беларускай Народнай Рэспубліцы не ўдалося. 5 студзеня 1919 года ў Вільні стаялі часткі Чырвонай Арміі, праз некалькі месяцаў старажытны горад быў ужо ў руках палякаў. Тут у красавіку 1919 года «начальнік польскай дзяржавы» Юзаф Пілсудскі звярнуўся да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага.

За месяц да гэтага Другая Рэч Паспалітая і Літва заявілі пра свае правы на Віленшчыну на Парыжскай мірнай канферэнцыі. Аднак у Коўна шансаў на падтрымку з боку Францыі было мала. Парыж разглядаў літоўскія землі як частку Расіі, а з Польшчай ён размаўляў як з роўнай. Лондан схіляўся да падтрымкі літоўскай незалежнасці. Больш за тое, у аналітычнай запісцы МЗС Вялікабрытаніі таго часу ўсходняя мяжа Польшчы пазначалася ля Сувалак, Горадні і праходзіла праз раку Заходні Буг да Галіцыі. Аднак французы лічылі незалежнасць Літвы «германскай інтрыгай» і не да канца давяралі Коўна.

Летам 1920 года сітуацыя змянілася. Чырвоная Армія выбіла польскія войскі з Беларусі і імкліва наступала на Захад. Пры гэтым бальшавікі імкнуліся заручыцца падтрымкай Літвы ў вайне з Польшчай і афішавалі ідэю аб прызнанні літоўскіх правоў на Віленшчыну.

10 ліпеня 1920 года была заключана дамова паміж Другой Рэччу Паспалітай і саюзнымі дзяржавамі, паводле якой палякі павінны былі перадаць Віленшчыну пад часовае кіраванне Літве. Аднак гэтае пагадненне так і не было выканана.

## Спробы дамовіцца

Увесну 1920 года Коўна накіравала ўраду РСФСР прапанову пра заключэнне мірнай дамовы, галоўнай умовай якой было б прызнанне бальшавікамі незалежнасці Літвы і ўваход у яе склад не толькі літоўскіх, але і часткі беларускіх тэрыторый. У адказ бальшавіцкі наркам Рыгор Чычэрын прапанаваў вызначыць «нацыянальную прыналежнасць таго ці іншага горада» на адмысловай канферэнцыі.

Адзін з чальцоў літоўскай дэлегацыі ў Маскве пісаў міністру замежных спраў Літвы: «Рускія прынцыпова не могуць задаволіць нашых патрабаванняў, бо ў Лідскім, Ашмянскім і асабліва ў Гарадзенскім паветах, без усялякага сумнення, пражывае значная колькасць беларусаў і рускіх. Трывалася бальшавіцкай пазіцыі заключаецца яшчэ і ў тым, што ў адносінах да Лідскага, Гарадзенскага і Ашмянскага паветаў у нас, сапраўды, няма ніякіх этнаграфічных доказаў». Бальшавікі разумелі, што літоўцам як паветра трэба міжнароднае прызнанне іх незалежнасці, і спрабавалі прымусіць Коўна заключыць з імі ваеннае пагадненне. Літоўскі бок адказваў, што можа разгледзець перспектыву вайсковага саюзу, але толькі пасля заключэння мірнага пагаднення.

## Што было ў дакуменце

Сітуацыя ў рэгіёне непакоіла Захад, які баяўся бальшавіцкай экспансіі ў Еўропу. Літва ўзяла тайм-аўт у перамовах да чэрвеня.

Урэшце 12 ліпеня 1920 года ў Маскве была заключана мірная дамова паміж Расіяй і Літвой.



Жаўнеры літоўскага войска

У маёй калекцыі ёсць унікальнае выданне: «Зборнік дзеючых дамоваў, пагадненняў і канвенцый, заключаных РСФСР з замежнымі дзяржавамі», выдадзены ў 1922 годзе. У гэтай кнізе змешчана і бальшавіцка-літоўская дамова.

Прывядзем вытрымкі з гэтага дакумента: «Зыходзячы з абвешчанага РСФСР права ўсіх народаў на вольнае самавызначэнне аж да поўнага аддзялення ад дзяржаў, у якіх яны ўваходзяць, Расія безумоўна прызнае самастойнасць і незалежнасць Літоўскай дзяржавы з усімі вынікаючымі з гэтага наступствамі. [...] Дзяржаўная мяжа паміж Расіяй і Літвой праходзіць: пачынаючы ад месца ўпадзення ракі Гараднянкі ў раку Бобр у 2 вёрстах на ўсход ад вёскі Чарныляс па рацэ Гараднянцы паміж вёскамі Хмельнікі і Хмелеўка і вёскамі Ляўкі і Вольша; адтуль у накірунку да паўднёвага боку вёскі Весялова; адтуль па безыменнаму прытоку ракі Каменнай. Далей уверх па цячэнні ракі Каменнай. [...] Далей па рацэ Індурка, міма вёскі Лужкі, міма мястэчка Індура, міма вёскі Пракаповічы, міма вёскі Белява, далей па рацэ Лашанцы, міма вёскі Баброўнікі і далей да ўпадзення гэтай ракі ў Свіслач. Далей па рацэ Свіслач да ўпадзення яе ў раку Нёман; адтуль па рацэ Нёман да вусця ракі Бярэзіна, па рэках Бярэзіна, Іслач і Валожынка, па заходнім баку мястэчка Валожын. [...] Мяжа перасякае чыгуначны вузел так, што чыгуначная лінія Вільня—Маладзечна—Ліда застаецца на літоўскай тэрыторыі, а чыгуначная лінія Вілейка—Маладзечна—Мінск — на расійскай тэрыторыі».

То бок, бальшавікі пагадзіліся аддаць Літве значную частку этнічна беларускіх тэрыторый з Гродна, Шчучынам, Ашмянамі, Смаргонню, Браславам, Лідай, Паставамі. Аднак бальшавікі не адмовіліся і ад ідэі беларускай рэспублікі.

16 ліпеня ў Маскве прынялі рашэнне аб фармаванні Беларускага рэўкома, а 31 ліпеня ў Мінску адбылося паўторнае абвяшчэнне ССРБ (Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі), якая на той момант складалася з 6 паветаў Мінскай губерні.

Паводле бальшавіцка-літоўскай дамовы, канчатковую мяжу паміж краінамі павінна была правесці змяшаная камісія. Саветы і літоўцы планавалі заключыць асобнае пагадненне наконт арганізацыі памежнай аховы. Бакі дамаўляліся не арганізоўваць на сваіх тэрыторыях атрадаў, якія б вялі ўзброеную барацьбу супраць аднаго з бакоў — падпісантаў дамовы. Расія прызнавала літоўскае грамадзянства, а таксама абавязалася вярнуць Літве ўсе бібліятэкі, архівы, музеі, мастацкія творы і іншую маёмасць, якая была вывезена з літоўскай тэрыторыі падчас Першай сусветнай вайны.

Цікавы момант: у дакуменце падрабязна прапісвалася лінія дзяржаўнай мяжы паміж Літоўскай Рэспублікай і РСФСР, аднак нідзе не згадваецца права Літвы на Вільню.

## Вырашэнне лёсу Вільні

Кіраўніцтва БНР 22 ліпеня 1920 года накіравала ў Маскву, Коўна, а таксама заходнім саюзнікам ноту пратэсту, у якой падкрэслівалася, што «ўмовы літоўска-бальшавіцкага міра парушаюць самым грубым чынам нацыянальныя, культурна-эканамічныя і суверэнныя правы беларускага народа, бо гэты мір заключаны за кошт гістарычных і этнаграфічных беларускіх земляў». У гэты ж час урад Другой Рэчы Паспалітай накіраваў у Коўна ліст, у якім прызнаваў літоўскі ўрад. Аднак літоўцаў цікавіла толькі «Віленскае пытанне», наконт якога Варшава маўчала.

У гэты ж час у Вільню ўвайшоў... 3-ці кавалерыйскі корпус Чырвонай Арміі пад камандаваннем Гаі Гая. 6 жніўня 1920 года ў Коўна была падпісана бальшавіцка-літоўская канвенцыя аб вывадзе рускіх войскаў з тэрыторыі Літвы. 27 жніўня 1920 года літоўскія часткі ўвайшлі ў старажытную сталіцу ВКЛ.

За 10 дзён да гэтага Чырвоная Армія атрымала цяжкую паразу пад Варшавай. «Цуд над Віслай» паставіў крыж на рэалізацыі бальшавіцкіх планаў сусветнай рэвалюцыі ў Еўропе.

Літва накіравала ў Варшаву ноту, у якой падкрэслівала свой нейтралітэт у польска-бальшавіцкай вайне. 26–31 жніўня ў Коўна адбыліся польска-літоўскія перамовы, на якіх палякі ціснулі на літоўцаў у справе заключэння саюза супраць Расіі. Аднак Літва на гэта не пагадзілася. Тады палякі абвінавацілі літоўцаў у тым, што праз літоўскую тэрыторыю адступаюць бальшавіцкія часткі, інтэрнаваныя ва Усходняй Прусіі.

У жніўні-верасні 1920 года ўзброеныя сілы Літвы спрабавалі выцесніць часткі Войска Польскага з Сувалак. Гэта прывяло да кровапралітных баёў паміж палякамі і літоўцамі. 7 кастрычніка 1920 года ў Сувалках было падпісана польска-літоўскае пагадненне аб перамір'і.

А ўжо ў ноч з 8 на 9 кастрычніка 1920 года адбылася падзея, якая цалкам перакрэсліла сэнс бальшавіцка-літоўскай мірнай дамовы. Паводле тайнага распараджэння «начальніка польскай дзяржавы» Юзафа Пілсудскага, са складу 1-й літоўска-беларускай дывізіі Войска Польскага была сфармавана вайсковая групоўка (15 393 чалавек) пад камандаваннем генерала Люцыяна Жалігоўскага, якая з'імітавала бунт і заняла Вільню. Была ўтворана так званая «Сярэдняя Літва» (частка тэрыторый Ашмянскага, Віленскага і Свянцянскага паветаў). 17 снежня 1920 года кантрольная камісія Лігі Нацый зацвердзіла 10-кіламетровую нейтральную паласу паміж Літвой і Віленскім краем.

## Спрэчная тэрыторыя

Што ж у гэтай сітуацыі рабілі беларусы? 11 лістапада 1920 года Урад БНР на чале з Вацлавам Ластоўскім заключыў пагадненне з Літвой аб вайсковым і палітычным супрацоўніцтве супраць Польшчы. У канцы лістапада 1920 года сітуацыю вакол Віленскага краю разгледзеў Савет Лігі Нацый і прапанаваў правесці плебісцыт пад кантролем наглядальнікаў і вайсковых кантынгентаў трэціх краін, аднак гэтая прапанова так і засталася на паперы.

У лютым 1921 года МЗС Літвы абяцала, што «ў будучым можа быць створана беларуская палітычная адзінка ў федэратыўнай сувязі з Літвой». А вось прыхільнікі Найвышэйшай Рады БНР падтрымалі польскую аперацыю Жалігоўскага. І нават занялі месцы ва ўрадзе «Сярэдняй Літвы».

18 сакавіка 1921 года ў Рызе была заключана мірная дамова паміж РСФСР, УССР з аднаго боку і Польскай рэспублікай. Гэты дакумент завяршыў кровапралітную польска-бальшавіцкую вайну, у выніку якой Заходняя Беларусь засталася ў складзе Другой Рэчы Паспалітай. А 20 лютага 1922 года Віленскі сейм аднагалосна прагаласаваў за ўваход «Сярэдняй Літвы» ў склад Другой Рэчы Паспалітай, што і адбылося ў красавіку таго ж года. У 1926 годзе ў складзе Польшчы з'явілася новае ваяводства — Віленскае.

У 1923 годзе ўрад БНР пераехаў з Коўна ў Прагу. Амаль да пачатку Другой сусветнай вайны паміж Варшавай і Коўна не было дыпламатычных стасункаў. Яны былі адноўлены толькі ў 1938 годзе. У верасні 1939 года гэта выратавала значную колькасць жаўнераў і афіцэраў Войска Польскага, якія адступілі на літоўскую тэрыторыю і былі інтэрнаваныя. Ну і, нарэшце, у кастрычніку 1939 года Іосіф Сталін «перадаў» Віленскі край Літве.




Чырвонаармейцы накіроўваюцца на польскі фронт

# Час вяртання Уладзіслава Казлоўскага

Сяргей ЧЫГРЫН

**У сакавіку 1941 года група беларускіх пісьменнікаў наведала Вільню. Сярод іх быў літаратурны крытык Алесь Кучар, які ў БССР пісаў даносы на многіх пісьменнікаў. Падчас той сустрэчы Кучар хваліў пісьменнікаў Заходняй Беларусі (як успамінаў Язэп Малецкі), што вытрывалі польскую акупацыю. Там ён сустрэўся з грамадскім і палітычным дзеячам, выдаўцом, паэтам, публіцыстам Уладзіславам Казлоўскім, які меў літаратурны псеўданім Казлоўшчык.**



### Падзяка з БССР

«Мы ў БССР пра Казлоўшчыка думалі як пра нейкага амерыканскага каўбоя, што абвешаны разбойнымі нажамі ды наганамі. А тут — вельмі сімпатычны чалавек. Мы крыху знаем вашую творчасць, яна даволі арыгінальная і цікавая, народная», — казаў Кучар.

Уладзіслаў Казлоўшчык пачытаў вязанку сваіх патрыятычных вершаў, што яшчэ больш раззброіла бальшавіцкую насцярожанасць Кучара. Ён нават прапанаваў Казлоўшчыку пісаць творы ў бальшавіцкім духу і раіў далучыцца да савецкай рэчаіснасці.

Да савецкай рэчаіснасці такія яркія асобы, як Уладзіслаў Казлоўшчык, далучыцца не маглі. Яны добра ведалі, што ў 1920-х — напачатку 1940-х гадоў адбывалася ў БССР. Хаця ў той самы час не проста і вельмі цяжка жылося і беларусам Заходняй Беларусі пад Польшчай.

### Вайсковец-асветнік

Уладзіслаў Казлоўскі нарадзіўся 29 чэрвеня 1896 года ў вёсцы Залессе Сакольскага павета на Беласточчыне ў беларускай каталіцкай сям'і. З малых гадоў пачаў цікавіцца жыццём тутэйшых людзей, і сам хутка стаў нацыянальна свядомым беларусам. Пачатковую і сярэднюю адукацыю ён набыў у Сакольцы і ў Гародні.

У 1916 годзе юнак з Сакольшчыны паступіў у каталіцкую духоўную семінарыю ў Вільні. Там ён актыўна пашыраў між клерыкаў беларускую свядомасць. А ў 1919 годзе, калі заснавалася ў Вільні Беларуская вайсковая арганізацыя, пакінуў вучобу ў духоўнай семінарыі, бо марыў звязаць сваё жыццё з беларускім войскам. Адначасова з гэтым, каб не сядзець бясчынна ў БВА, якая тады яшчэ праводзіла толькі рэгістрацыю сяброў, ён запісаўся на беларускія кароткачасовыя настаўніцкія курсы пры Цэнтральнай Радзе Віленшчыны і Гродзеншчыны.

Курсы Уладзіслаў Казлоўскі скончыў паспяхова, і быў прызначаны ў Сакольскі павет для арганізацыі там беларускага школьніцтва. Але арганізоўваць курсы там было няпроста, бо польскія павятовыя чыноўнікі да гэтага ставіліся адмоўна. Тады юнак вярнуўся ў Вільню. А калі Беларуская вайсковая камісія заснавалася ў Мінску, пераехаў у Мінск.

Напачатку 1920 года Казлоўскі працуе інструктарам Беларускага нацыянальнага камітэта па пытаннях арганізацыі нацыянальнага і кааператыўнага жыцця ў Ігуменскім павеце. А ў маі гэтага ж года БВК дасылае яго ў Варшаўскую школу падхарунжых.

Пасля заканчэння ваеннай школы, Уладзіслаў Казлоўскі быў прызначаны інструктарам у Першы батальён беларускіх стралкоў, які ўжо быў эвакуяваны з Мінску ў Лодзь. Праз год, у сувязі з ліквідацыяй беларускіх аддзелаў, перавёўся ў польскае войска як кадравы афіцэр.

### Палітык

Будучы паручнікам чыннай службы, Казлоўскі не парываў сувязі з беларускім нацыянальным рухам. А ў 1930 годзе ўвогуле звольніўся са службы і зноў пераехаў у Вільню. Там ён поўнасцю аддаўся творчай працы і палітыцы. Спачатку арганізаваў гімнастычнае таварыства «Гайсак», пасля з'яўляўся выдаўцом і рэдактарам часопіса «Новы шлях» і адначасова адным з арганізатараў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі (БНСП). Гэтая партыя праіснавала з 1933 па 1943 год. Старшынёй у ёй быў Фабіян Акінчыц. У кіраўніцтва партыі ўваходзілі, акрамя Уладзіслава Казлоўскага, Альбін Стэповіч, Павел Арцішэўскі, Лявон Дубейкаўскі, Кастусь Юхневіч, Алёйза Пецюкевіч і Антон Сапко.

У 1937 годзе БНСП была забароненая польскімі ўладамі, і частка сяброў у 1938 годзе выехала ў Германію. У тым ліку і старшыня партыі Фабіян Акінчыц, які ўзначаліў беларускае бюро ў нямецкім Міністэрстве прапаганды. Нелегальную дзейнасць БНСП на Віленшчыне ачоліў Уладзіслаў Казлоўскі.





Weissruthenische Zeitung — Biełaruskaja Hazeta

Цана 10 фен. (1 руб.)

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 24 (142) — Нядзеля, 28 сакавіка 1943 г. — Год выданьня III

КРЫЗІС ПЕРАМОЖАНЫ

ВАЙНА НА ЎСХОДЗЕ

БЯЗВЫНІКОВЫЯ САВЕЦКІЯ АТАКІ НА ПАЎДНЯ АД ЛАДАСКАГА ВОЗЕРА

ДАЛЕЙШЫ НЯМЕЦКІ НАСТУП НА ЎСХОД

ПРАМОВА ПРАВАДЫРА Ў ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ ГЭРОЯЎ

**Да савецкай рэчаіснасці такія яркія асобы, як Уладзіслаў Казлоўшчык, далучыцца не маглі. Яны добра ведалі, што ў 1920-х — напачатку 1940-х гадоў адбывалася ў БССР. Хаця ў той час няпроста жылося і беларусам пад Польшчай**

Пасля нападу Германіі на СССР Уладзіслаў Казлоўскі паспрабаваў легальна аднавіць дзейнасць партыі, аднак Альфрэд Розенберг, кіраўнік акупіраваных усходніх абласцей, забараніў яе. Акінчыц і сябры партыі хутка расчараваліся ў немцах, бо ўбачылі, што яны не нясуць абяцанай «новай Еўропы», а славян хочуць знішчыць і зрабіць рабамі. А астатні беларускі нацыянальны актыў не давяраў БНСП і лічыў іх людзьмі немцаў.

### Літаратар

Першыя творы Уладзіслава Казлоўскага (Казлоўшчыка) з'явіліся ў перыядычным друку ў 1920-х гадах. Гэта былі публіцыстычныя артыкулы на спартыўныя тэмы. Тады ж выйшлі ў свет яго першыя кнігі «Фізічнае выхаванне грамадзянства» (1927) і «Аб фізічным выхаванні ў беларусаў» (1928).

У 1930 годзе Казлоўскі актыўна супрацоўнічаў з часопісам «Шлях моладзі», дзе вёў рубрыку «Куток для спорту». Сам пісаў спартыўныя артыкулы, рэпартажы і друкаваў на старонках гэтага часопіса.

Добра пісалася і літаратура. З друку выйшлі яго кнігі «Беларускія народныя песні з Сакольскага павету», «Плач Беларускай Старонкі — маткі па дзетках сваіх рэнегатах», вершаваны раман «Путы кахання», зборнік паэзіі «Шляхам змагання», вершаванае апавяданне з Казюковага кірмашу ў Вільні «Казюк на кірмашы».

У сваіх вершах і празаічных абразках Уладзіслаў Казлоўшчык часцей звяртаўся да маладых. Яго верш «Песня беларускай моладзі» быў тады гімнам юнакоў і дзяўчат. Дарэчы, і музыку напісаў сам аўтар. Песня пачыналася так:

*Мы бойкая моладзь — арлы маладыя,*
*За намі йдзе воля братоў.*
*У душах нашых шчырых ідэі святыя.*
*А ў жылах — Крывіцкая кроў...*

У № 4 «Шляху моладзі» за 1930 год быў надрукаваны верш Казлоўшчыка «Беларусь устань!», які польскія ўлады палічылі крамольным і канфіскавалі ўвесь наклад выдання.

### Калабарант ці патрыёт?

У гады Другой сусветнай вайны ў Мінску выдавалася «Мінская газета», якая з 5 лютага 1942 года памяняла назву на «Беларускую газету». Спачатку яе рэдагаваў Аляксей Сянькевіч, а затым — Уладзіслаў Казлоўскі. Наклад «Беларускай газеты» дасягаў 50 тысяч асобнікаў. Выданне інфармавала пра дзейнасць Беларускай народнай самапомачы, Беларускай краёвай абароны, Беларускай цэнтральнай рады, Саюза беларускай моладзі. Ролю і значэнне гэтых арганізацый яна значна перабольшвала, а любыя іх акцыі з захапленнем каментавала. Шмат увагі аддавала праблемам моўнай палітыкі, выкладання ў пачатковай школе, падрыхтоўцы настаўніцкіх кадраў, выхавання нацыянальнай самасвядомасці, арганізацыі культурнага жыцця.

Газета друкавала папулярныя нарысы па гісторыі і культуры Беларусі, многія з якіх былі яўна палітызаваныя, матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі, пра беларускія традыцыі і абрады, паходжанне беларускай сімволікі і іншыя. На старонках газеты змешчаны ўспаміны ўдзельнікаў грамадзянскай вайны, матэрыялы пра сталінскія злачынствы, творы беларускіх літаратараў, літаратурна-крытычныя артыкулы, рэцэнзіі і г.д. Але ўсё ж шэраг публікацый газеты канца 1943 — пачатку 1944 гадоў былі прасякнуты песімізмам, асуджанасцю, расчараваннем у выбраным шляху.

У лістападзе 1943 года Іван Шнігер зайшоў у рэдакцыю «Беларускай газеты» і стрэліў ва ўпор у яе рэдактара. Стрэл пачула Наталля Арсеннева, якая выбегла з суседняга пакоя і закрычала: «Трымайце, трымайце яго! Гэта той бандыт, які забіў Казлоўскага». Але было ўжо позна...

Тысячы беларусаў праводзілі ў апошні шлях здольнага грамадскага дзеяча, палітыка і літаратара. Часопіс «Новы шлях» адзначыў тады, што Уладзіслаў Казлоўшчык «стаўся чарговай ахвярай бандыцкага тэрору на Беларусі і загінуў як жаўнер пры спаўненні сваіх абавязкаў». А беластоцкая газета «Новая дарога» 12 снежня 1943 года пісала: «Дня 13 лістапада 1943 года ў Мінску, пры выкананні сваіх нацыянальных абавязкаў трагічна загінуў ад рук нікчэмных бальшавіцкіх бандытаў рэдактар «Беларускай газеты» Уладзіслаў Казлоўскі... Пахавіны адбыліся дня 22 лістапада на Кальварыйскіх каталіцкіх могілках у Мінску. Падаючы гэтыя сумныя факты да ведама грамадзянства, рэдакцыя «Новай Дарогі» выказвае сваё глыбокае спачуццё асірочанай сям'і нябожчыка».

Сапраўды, Уладзіслава Казлоўскага пахавалі на Кальварыйскіх могілках. Але, на жаль, магіла яго згубілася. Адзіны сведка, хто мог бы сёння падказаць, дзе пахавалі Казлоўскага, — Антон Шукелойць, які жыве ў ЗША.

Уладзіслаў Казлоўскі заўсёды смела і аддана заклікаў свой народ ісці шляхам змагання, а тых, хто «на печы ў кажуху» сядзіць, «хай волі гром грыміць і будзіць, што дрэмлюць». Паэт шчыра верыў у Беларусь, а таксама спадзяваўся, што «прыйдзе той час — да сваіх я вярнуся і ў Маткі я Роднай кутка папрашу».

# Падарожжа па Гомельшчыне з Уладзімірам Цвірко

Лявон ЦЕЛЕШ

**Калі вядомы беларускі фатограф, мастак, этнограф, падарожнік Уладзімір Цвірко прапанаваў мне павандраваць па Гомельшчыне, каб даследаваць і сфатаграфаваць архітэктурныя помнікі — былыя сядзібныя маёнткі, цэрквы, касцёлы, капліцы, — я з вялікай радасцю згадзіўся.**



Фота аўтара

**Труна з прастрэленымі чарапамі ў крыпце мазырскага Свята-Міхайлаўскага сабора**



**Драўлянае надмагілле на яўрэйскіх могілках у в. Ленін Жыткавіцкага раёна**



**Месца, дзе быў забіты ў 1497 годзе мітрапаліт Кіеўскі і Усяе Русі Макарый**

У наш час знаходзяцца тыя, хто сцвярджае, што гісторыя нашай краіны пачынаецца з 1917 года, і культуру нам прынеслі бальшавікі з усходу. Таму ў Цвірко і нарадзілася ідэя аб'ехаць усю Беларусь, сфатаграфаваць старажытныя архітэктурныя помнікі і напісаць пра іх і нашу сапраўдную мінуўшчыну.

Уладзімір Цвірко ўмоўна падзяліў Беларусь на «выспачкі», або маршруты, дзе ёсць цікавыя старадаўнія помнікі архітэктуры, і са сваім неразлучным спадарожнікам — фотаапаратам даследуе іх. Усяго набралася 150 маршрутаў. Першы даведнік Цвірко з серыі «150 залатых маршрутаў маёй Беларусі» выйшаў у свет у выдавецтве «Турынфо» ў мінулым годзе, і адразу зацікавіў краязнаўцаў і ўсіх, хто неабыякавы да гісторыі Беларусі. І вось мы на маршруце.

Першы аб'ект нашага падарожжа — сядзіба Ваньковічаў у вёсцы Рудакова Хойніцкага раёна. Палац з чырвонай цэглы быў пабудаваны ў 1910 годзе ў стылі неабарока, вакол яго быў прыгожы пейзажны парк, працавалі лесапілка, гарэлачны завод, дзейнічала школа для сялянскіх дзяцей. Зараз ад прыгожага будынку засталіся амаль руіны, парк здзічэў, зарос хмызняком. Нам давялося у дзве сякеры секчы мелкалессе, каб зрабіць якасныя фотаздымкі будынку палаца.

У Хойніках мы наведалі сядзібна-паркавы ансамбль Аўраамавых у цэнтры горада і вельмі цікавую сядзібу Ястржэмбскіх у



**У Хойніках**

вёсцы Барысаўшчына. У вёсцы Юравічы Калінкавіцкага раёну, у старажытным будынку калегіума, дзе месціцца мужчынскі манастыр, маю ўвагу прыцягнула копія абраза Маці Божай Юравіцкай. Арыгінал абраза, першая згадка пра які датаваная 1630 годам, мне давялося сёлета ўбачыць у адным з касцёлаў Кракава, дзе ён знаходзіцца на захаванні з XIX стагоддзя, і, паводле дамоўленасці, павінен быць вернуты ў Юравічы, дзе ён знаходзіўся больш за два стагоддзі, і прыцягваў да сябе шмат паломнікаў.

У Юравічах уражвае сваімі памерамі гмах будынку касцёла, пабудаванага ў XVIII стагоддзі. Будынак патрабуе рэстаўрацыі.

Цікавыя помнікі архітэктуры XVII–XIX стагоддзяў мы сфатаграфавалі ў Нараўлянскім, Ельскім раёнах. А ў Мазыры наведалі крыпту ў Свята-Міхайлаўскім саборы. У 1930-я гады органамі НКУС Палескай вобласці сабор быў ператвораны ў турму, дзе трымалі «ворагаў народа». Там жа, у царкве, іх расстрэльвалі, а трупы пакутнікаў скідалі ў склеп, пад царкву. У гэтай турме было вынесена больш 2000 смяротных прыгавораў. Зараз у крыпце дзейнічае ніжні храм у гонар Новапакутнікаў, дзе ў 2-х трунах ляжыць 60 чалавечых чарапоў з кулявымі адтулінамі.

Вялікае ўражанне засталося і ад наведвання вёскі Скрыгалаў Мазырскага раёна. У 1497 годзе, па дарозе з Вільні ў Кіеў вёску наведаў мітрапаліт Кіеўскі і Усяе Русі Макарый. У час набажэнства, якое вёў мітрапаліт, мясцовы храм акружылі татары, схапілі яго і адсеклі галаву. Нятленныя мошчы мітрапаліта Макарыя зараз захоўваюцца ў кіеўскім Сафійскім саборы.

У вёсцы дзейнічае праваслаўная царква Макарыя, побач з якой узвышаецца капліца, пабудаваная ў гонар мітрапаліта. Мясцовыя жыхары паказалі нам месца на беразе Прыпяці, дзе быў забіты Макарый, і дзе існуе стэла, пабудаваная ў 1897 годзе на памяць пра гэтую трагічную падзею.

Наведалі мы таксама адзін са старажытнейшых населеных пунктаў Беларусі — Тураў, дзе на высокім кургане замчышча ўзвышаецца помнік асветніку Кірылу Тураўскаму. А на старадаўніх могілках стаіць царква, пабудаваная ў 1810 годзе, і месціцца помнік, прысвечаны найвышэйшаму гетману ВКЛ Канстанціну Астрожскаму.

Па дарозе дадому наперадзе нас чакаў яшчэ адзін цікавы аб'ект — былое мястэчка, а зараз вёска Ленін, што знаходзіцца ў 4 кіламетрах ад аўтамабільнай дарогі Мінск—Мікашэвічы. Назва вёскі не мае нічога агульнага з імем правадыра сусветнага пралетарыяту. Па адной з легенд, у мясцовага памешчыка некалі ўтапілася ў рацэ Случ адзіная дачка — прыгажуня Лена, і засмучаны бацька ў гонар яе назваў пасяленне. Існуе таксама паданне, што ў XVI стагоддзі слуцкі князь Юрый Алелькавіч назваў гэтае мястэчка імем сваёй каханай князёўны Алены.

Некалі большасць насельніцтва мястэчка складалі яўрэі. У часы вайны фашысты знішчылі амаль усё насельніцтва, аб гэтым сведчыць мемарыял ахвярам, які знаходзіцца ля самага ўваходу на старажытныя іудзейскія могілкі, якія займаюць значную плошчу. Іх унікальнасць у тым, што амаль усе надмагіллі выкананы з дрэва, з выразанымі надпісамі на яўрэйскай мове. Такога няма больш нідзе на Беларусі, а, магчыма, і ў Еўропе, бо звычайна надмагілле на яўрэйскіх могілках выраблена з бетону, альбо на магіле ляжыць камень з надпісам.

Дасведчаныя асобы паведалі Уладзіміру Цвірко, што апошнім часам вёску Ленін наведваюць «гастралёры» на машынах з расійскімі нумарамі: наведваюць яўрэйскія могілкі, здымаюць з магіл драўляныя надмагільныя помнікі. І звозяць у невядомым напрамку. Звезлі ў Расію і крыж Еўфрасінні Полацкай, і слуцкія паясы, і старажытныя летапісы, і шмат чаго іншага. Зараз дабраліся і да могілак.

Каштоўныя фотаматэрыялы, атрыманыя ў час падарожжа, увойдуць у багата ілюстраваны даведнік архітэктурных помнікаў у 17 населеных пунктах Гомельшчыны.

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня
Всего

Кассир

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
ці **атрымаць бясплатна** (8029) 666 45 29 Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20 капеек**, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 681

Падпісана да друку 15.07.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.